Беларусь выйшла на першае месца ў свеце **па спажыванні алкаголю**.
**Старонка 8.**

# Краіна ў запоі

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 18 (855) 14 мая 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Не ўсе зразумелі

Чаму беларускае журы «Еўрабачання» паставіла Канчыту Вурст **на перадапошняе месца**?
**Старонка 11.**

**Палітыка**

## Псіхалагічна ўразлівая краіна

Беларусь мае нізкую здольнасць абараняцца. Гутарка з Андрэем Паратнікавым. **Старонка 3.**



**Гаспадарка**

## Хто бярэ пазыкі пад 1825% гадавых?

Нацбанк хоча забараніць «мікракрэдытаванне». **Старонка 5**



**Гучная справа**

## Пакараны смерцю Рыгор Юзапчук

Яго стрыечны брат быў расстраляны пяць гадоў таму. **Старонка 6.**



**Эсэ**

## Стась Карпаў: Неандэрталец ідзе

Мы не разумеем, чаму яны не бачаць, што кепскае – кепска. **Старонка 13.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Наваросія ці Украінская Федэрацыя?

Сітуацыя ва Украіне застаецца **крайне нестабільнай**.

Данецкая і Луганская вобласці абвясцілі сябе незалежнымі. Прычым не разам, а паасобку: Данецкая народная рэспубліка і Луганская народная рэспубліка. У кожнай свой сцяг.

Канечне, гэта ўсё фарс. Асобнымі дзяржавамі яны не стануць. Ці можаце ўявіць сабе якуюсьці Гомельскую народную рэспубліку? Так і ў Данбасе — няма там ні асобнай гісторыі, ні асобнай мовы, ні асобнай эканомікі. І вось тут пытанне: што з імі стане?

Ёсць чатыры варыянты. Абвяшчэнне можа застацца толькі на паперы, і Данецк з Луганскам застануцца часткай Украіны. Сапраўды, рэферэндум быў чыстай вады авантурай. Арганізавалі за тыдзень, нават спісаў выбарцаў не было. Ніхто яго не прызнаў, нават Расія.

Але ў расійскіх СМІ плебісцыт быў галоўнай тэмай. Вуснамі МЗС Масква заявіла, што «нядаўнія рэферэндумы ў Данецкай і Луганскай абласцях Украіны павінны ўспрымацца як ясны сігнал Кіеву аб глыбокім крызісе ўзаемаразумення, а ў больш шырокім сэнсе — самой украінскай дзяржаўнасці», — гаворыцца ў заяве. У тое, што Данбас надалей застанецца часткай Украіны дэ-факта, мала хто верыць. Інакш бы нашто пачыналі ўсю тую завaруху?




**32-гадовы Дзяніс Пушылін — старшыня часовага ўрада Данецкай народнай рэспублікі. Балатаваўся ў дэпутаты Вярхоўнай Рады, але набраў усяго 0,08% (77 галасоў).**

Варыянты застаецца тры. Або вобласці Данбаса далучаць да Расіі на правах новых суб'ектаў федэрацыі (так іх «урады з калашнікавымі ў руках» просяць). Або яны з'яднаюцца ў псеўданезалежную «Украінскую Федэрацыю». Або сітуацыя застанецца падвешанай.

Апошні варыянт крые самую небяспечную перспектыву. Масква можа ўмацаваць «народныя арміі» народных рэспублік «добраахвотнікамі», у тым ліку з Чачні. Узброіць да зубоў і штурхаць у «вызваленчы паход» на Адэсу, а пасля на Кіеў. Гэта будзе катастрофа, братазабойчая вайна, калі мяжа будзе перасоўвацца, як тое было ў часе вайны ў Карэі ў 1950—1953.

Зрэшты, і далучэнне Данбаса да Расіі або ўтварэнне «Украінскай Федэрацыі» не выключае варыянта, калі «данецкі сцэнар» захочуць паўтарыць спачатку ў Харкаве, Адэсе, а пасля і Запарожжы з Днепрапятроўскам.

Выбар Масквы абазначыць і яе новае стратэгічнае бачанне. Калі яна будзе далучаць часткі Украіны абласцямі, значыць, у Маскве зусім адмаўляюцца лічыць украінцаў і беларусаў нацыямі з правам на самастойнасць.

Украіна спадзяецца, што выбары 25 мая і прыход фінансавай дапамогі ад МВФ стабілізуюць сітуацыю. А яна можа і пагоршаць пасля 3 чэрвеня. На гэты дзень Расія вызначыла крайні тэрмін авансавай аплаты за газ. Калі яна не паступіць, то газ перакрыюць. Кіеў жа плаціць адмаўляецца, патрабуе справядлівай цаны. Бо на сёння Расія патрабуе 480 даляраў — на дзвесце больш, чым брала з Януковіча, і на сто больш, чым плаціць Германія. Увесь свет напружана чакае, які варыянт развіцця падзей абярэ Масква.

Сілавыя метады Кіева не спрацавалі. Украінскаму спецназу не ўдалося вызваліць Славянск, а ў пятніцу 9 мая ўкраінскія байцы пакінулі Марыупаль.

**Мікола Бугай**

**Кроў ліецца**

На Майдане ў Кіеве загінула не менш за 104 чалавекі.

У Данецкай вобласці за красавік і май загінула не менш за 49 чалавек.

У Адэсе 2 мая загінула 48 чалавек.

У Крыме загінула не менш за 4 чалавекі.

**Якія краіны яшчэ былі падзеленыя вялікімі дзяржавамі**

Ад 1945 года да нашых дзён падзеленая Карэя. Раскол прайшоў па лініі, вызначанай Сталіным і Трумэнам пасля разгрому Японіі. Саюзная амерыканцам Паўднёвая Карэя дасягнулі выдатных поспехаў у развіцці. Саюзная Расіі і Кітаю Паўночная Карэя ператварылася ў поле жахаў.

Ад 1945 да 1989 года Нямеччына была падзеленая на ФРГ і ГДР — зоны акупацыі, вызначаныя саюзнікамі. Пасля аслаблення СССР немцы ўз'ядналіся.

Ад 1953 да 1975 быў падзелены В'етнам. Поўнач кантралявалі камуністы, Поўдзень — амерыканцы. Вайна скончылася паразай ЗША і аб'яднаннем краіны.



## Сціcла

**Грыбаўскайце набрала 46%**

Будзе другі тур. Паводле папярэдніх вынікаў першага тура выбараў прэзідэнта Літвы, прэзідэнт Даля Грыбаўскайце лідзіруе з 45,89 % галасоў. На другім месцы — кандыдат сацыял-дэмакратаў Зігмантас Бальчыціс з 13,63% галасоў. Другі тур пройдзе 25 мая.

**Швейцарскія электрычкі пусціць на Маладзечна**

Рух пачнецца ад 1 чэрвеня. Хадзіць яны будуць два разы на дзень без прыпынкаў на маршруце. З Мінска цягнікі будуць выязджаць у 06.47 і 19:20, а з Маладзечна — у 8:00, 20:25.

**У Віцебску затрымалі траіх расейцаў**

...якія кралі грошы з карт-рахункаў беларусаў. Усяго за час сваёй злачыннай дзейнасці расейцы завалодалі дадзенымі аб карт-рахунках амаль 400 беларусаў і выкралі сродкі на агульную суму каля Br70 млн.

**У Расіі створаны войскі інфармацыйных аперацый**

Іх галоўнае прызначэнне — абарона расійскіх вайсковых сістэм кіравання і сувязі ад кібертэрарызму і надзейнае закрыццё інфармацыі, якая праходзіць па іх, ад верагоднага праціўніка.

**Тэрміты атакавалі прэзідэнцкі палац у Парагваі**

Па словах спецыялістаў, нашэсце тэрмітаў пагражае захаванасці прэзідэнцкага палаца ў сталіцы Парагвая Асунсьёне. Архітэктары таксама занепакоеныя тым, што разам з процьмай тэрмітаў у гістарычным будынку развяліся шматлікія кажаны.

**ЛМ**

## Апытанні на nn.by

**Ці будзеце Вы глядзець чэмпіянат свету па хакеі і як?**

| | | |
|---|---|---|
| Пайду на матчы | 91 | 8% |
| Буду глядзець у тэлевізары | 282 | 24% |
| Не буду глядзець | 591 | 51% |
| Пастараюся менш бываць у горадзе | 190 | 16% |

Усяго прагаласавала 1154.

## Самае чытанае на nn.by за 7—13 мая

1 Міліцыя сарвала правядзенне Рускага марша ў Мінску
2 Лукашэнка прыйшоў на хакей разам з Дар'яй Шманай
3 Шэсць фактаў пра георгіеўскія стужкі
4 Такі хакей нам не трэба: лік арыштаваных на час чэмпіянату свету пайшоў на дзясяткі
5 «Я прошу вас говорить на русском языке. Я из Толочина» ВІДЭА
6 Пятая калона: хто рыхтуецца да сустрэчы «зялёных чалавечкаў» у Беларусі
7 Расію на Еўрабачанні асвісталі ВІДЭА
8 Эпічны правал тэлеканалаў «Расія» і НТВ ВІДЭА
9 Беларуская «супермадэль свету»: «Майму джыпу на расійскіх нумарах у Мінску прабілі колы»
10 Журналіст «Нашай Нівы» прыкінуўся расійскім турыстам у Мінску

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 8 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефон: (017) 284-73-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

Пры аплаце ў банку ці на пошце, бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату». Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Андрэй Паратнікаў: Псіхалагічна краіна ўразлівая, з нізкай здольнасцю абараняцца

**Што пагражае Беларусі?**
«НН» пагутарыла са стваральнікам аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog Андрэем Паратнікавым.

**«Наша Ніва»: Пагрозы для страты незалежнасці Беларусі сёння існуюць?**

**Андрэй Паратнікаў:** Яны існуюць нават перад самымі вялікімі дзяржавамі. Пасля ўкраінскіх падзеяў трэба прызнаць, што сітуацыя ў рэгіёне радыкальна змянілася. Фактычна, мы пабачылі, што гарантыі незалежнасці, якія даюцца краінам, нічога не вартыя. І гэта тычыцца як Захаду, так і Расіі. Мы трапілі ў «шэрую зону», калі сусветны парадак ужо разбурыўся, а новы яшчэ не створаны. Беларусь ізаляваная з захаду краіна, якая не мае ніякіх хаўруснікаў (нават Расію сюды цяжка аднесці). Таму мы ў вельмі ўразлівым стане.

**«НН»: А дзе тут у нас «танчэйшае месца», што рвецца?**

**АП:** Воля людзей, псіхалогія. Гэта комплексная з'ява, якая пачынаецца тым, што мы знаходзімся ў расейскай інфармацыйнай прасторы, а скончаецца правальнымі спробамі стварыць дзяржаўную ідэалогію. Псіхалагічна краіна ўразлівая, з нізкай здольнасцю супрацьстаяць замежнаму ціску.

**«НН»: Чаму, дарэчы, правалілася лукашэнкаўская ідэя ўкаранення дзяржаўнай ідэалогіі?**

**АП:** А хто яе будзе праводзіць? Якасць працоўных кадраў апошнія дзесяць гадоў змяншаецца. Людзі, якія здатныя нешта рабіць, не ідуць у дзяржаўны апарат альбо ідуць з адзінай мэтай — пабудаваць кватэру. Я гэта бачыў па сваіх аднакурсніках, сябрах і калегах. Вялікі кадравы голад.

**«НН»: А гістарычны падмурак да дзяржідэалогіі быў падведзены адпаведны?**

**АП:** Падведзены, але вельмі сухі. Ён трымаўся на двух сцверджаннях: 1. Рэспубліка Беларусь — прэзідэнцкая дзяржава; 2. Мы выйгралі вайну. Адштурхоўваючыся ад ідэі, што намі кіруе самы таленавіты чалавек сусвету, накідвалася ідэя культу асобы кіраўніка дзяржавы. Але ні першае, ні другое не спрацоўвае ў сучасным інфармацыйным грамадстве. Усё гэта рабілася такімі брэжнеўскімі метадамі.



**Андрэй Паратнікаў**

(Прозвішча вымаўляецца з націскам на другое «а», Пара́тнікаў.) Нарадзіўся ў 1978 у Бабруйску. Працаваў у Следчым апараце МУС. Стваральнік аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog.



Абвяшчэнне вынікаў рэферэндуму ў Луганску.

REUTERS

**Сілавікі — гэта не толькі пагоны, але і пэўныя бізнэс-інтарэсы**

**«НН»: Зменшыць расійскую інфармацыйную плынь бязбольна магчыма?**

**АП:** Канечне. Патрэбная лібералізацыя ўласнага інфармацыйнага рынку. Забараняць нешта — сэнсу няма. Калі забараняць расійскія тэлеканалы, то трэба забараняць і інтэрнэт. Трэба ствараць канкурэнтную прастору, паніжаць кошт доступу на інфармацыйны рынак, каб ствараліся якасныя, прафесійныя праекты, якія можна будзе прадаваць у тую самую Расію. Як гэта было ва Украіне.

**«НН»: Зараз загаварылі аб прарасійскіх арганізацыях Беларусі. Яны ўяўляюць пагрозу?**

**АП:** Гіпатэтычна — так. У нас ёсць скажоная карціна, як гэта выглядае. Мы думаем, калі гэта малалікія арганізацыі, якія не ў стане зладзіць масавую акцыю, — значыць, пагрозы няма. Насамрэч, цяпер у іх ідзе карэкціроўка задач, галоўныя з якіх: усталяванне кантактаў з дзяржслужбоўцамі, атрыманне інфармацыі з дзяржапарату, сілавых структур, спецслужбаў.

**«НН»: Здаецца, вы казалі, што пад выглядам «Расдзяржсупрацоўніцтва» фактычна дзейнічае расейская агентура.**

**АП:** Так. Трэба разумець, што агентура часта не ўяўляе, на каго яна працуе. Могуць думаць, што яны супрацоўнічаюць з Міністэрствам замежных справаў, Дзярждумай. Але канчатковы бенефіцыяр для іх можа быць невідавочным. Асноўная іх мэта — атрымліваць крыніцы інфармацыі з улады і сілавога блока. У Расіі не надта добра ўяўляюць, як у нас дзейнічае сістэма кіравання. Гэта такі міф, што Расія ў нас усё кантралюе, тут поўна іх агентаў... Не, тут сядзяць агенты аднаго чалавека.

**«НН»: Але ж ва Украіне аказалася, што многія сілавікі былі агентамі Расіі.**

**АП:** Украінцы кажуць, што злавілі супрацоўнікаў выведкі Расіі, але нікога так і не паказалі. Ідзе інфармацыйная вайна з абодвух бакоў, таму магчыма перабольшванне. Факт — што многія ўкраінскія сілавікі аказаліся здраднікамі. Факт — што Расія прыгрэла ў сябе гэтых здраднікаў. Але ці працавалі яны ад пачатку на Расію, сцвярджаць немагчыма.

**«НН»: Загад Лукашэнкі КДБ спыняць усялякія дзеянні прарасійскіх арганізацый — гэта сур'ёзна ці не?**

**АП:** Сур'ёзна. Бо ён сказаў тое экспромтам, калі адарваўся ад паперкі. Відавочна, што яго гэта непакоіць. І тое, што звярнуўся ён да спецслужбаў, паказвае, што інфармацыю атрымаў якраз ад іх. Мне пару гадоў таму скардзіўся адзін таварыш з прарасійскай тусоўкі, што з імі ўжо тады шчыльна працавалі.

**«НН»: Ёсць меркаванне, што шматлікія сілавікі, выхадцы з Расіі і Украіны, гэта міна запаволенага дзеяння. Вы згодныя?**

**АП:** Не, бо гэтыя людзі прыехалі сюды збольшага пры савецкай уладзе. Гэта не расейцы і не ўкраінцы, гэта — саўкі. Высокапастаўленыя сілавікі — гэта не толькі пагоны, але і пэўныя бізнэс-інтарэсы, якія завязаныя на незалежнай Беларусі. За 20 гадоў некаторыя людзі пранікліся, што Беларусь — гэта незалежная дзяржава. Гэта як на ўкраінскім карвеце «Цярнопаль» расіяне атрымалі ад каманды адказ: «Рускія не здаюцца». Экіпаж карабля быў рускім, але не перайшоў на бок Расіі.

**«НН»: Вы сцвярджаеце, што ядзерная зброя сёння не можа дапамагчы ўратаваць суверэнітэт.**

**АП:** Калі рашэнне аб стварэнні ядзернай зброі будзе прынятае і будзе агучана, то мы акажамся ў такой жорсткай ізаляцыі, што Паўночнай Карэі пазайздросцім. Пакет санкцый будзе накіраваны на татальную ізаляцыю.

**«НН»: На сайце Belarus Security Blog Вы праводзіце «работу над памылкамі» па падзеях ва Украіне. Што трэба найперш зрабіць Беларусі, каб не дапусціць падзей, падобных да данбаскіх?**

**АП:** Трэба змагацца не з тым, каб у нас было менш Расіі, а каб было больш Беларусі. Калі падрыхтаванасці і гатоўнасці ў людзей бараніць сваё няма, нават калі ёсць тэхнічныя магчымасці, краіну гэта не ўратуе. Як гэта было ў 1938 годзе, калі чэхаславацкае войска было параўнальным з нямецкім, але ад акупацыі гэта не ўратавала.

**«НН»: Сённяшняя беларуская армія ўяўляе сабой баяздольную сілу? Ці можна яе параўноўваць з арміямі Расіі і Украіны?**

**АП:** З украінскай — уяўляе, з расейскай — таксама тэхнічна. Але мы тут зноў вяртаемся да таго, што ў людзей у галовах. Калі ім 23 гады казалі, што мы разам «гнілі ў акопах», мы адзін народ, Неўскі і Сувораў — нашы героі. Крый Божа, пачнецца ўзброены крызіс, ці будзе гатоўнасць у нашых вайскоўцаў страляць у людзей, якіх табе падавалі як братоў? Калі пачнецца ўварванне Расіі, то яно не будзе пад лозунгамі «Усіх беларусаў — у Магадан». Яно будзе адбывацца пад лозунгамі абароны ад НАТА і паляпшэння эканамічных умоваў жыцця.

**«НН»: Расіі сёння ўвогуле выгадная анексія Беларусі?**

**АП:** Не. Не трэба пераацэньваць значэнне Беларусі для Захаду і Расіі. Мы палітычная перыферыя. Расія нас разглядае як буферную зону, якую яны хочуць кантраляваць з пытанняў бяспекі і прэстыжу. Крытычна важных тэхналогій для Расіі ў Беларусі амаль не засталося, апроч некалькіх заводаў. З Казахстанам вось іншая сітуацыя.

**«НН»: У Казахстана рызыкі большыя?**

**АП:** Канечне. На некалькі парадкаў. З сакавіка ў Арэнбургскай вобласці абсталёўваюць тэрыторыю для ракетаў «Іскандэр». З гэтага пункта можна пакрыць увесь Усходні Казахстан. У Казахстане ёсць Назарбаеў — чалавек немалады, а інстытут перадачы ўлады не распрацаваны. Ёсць таксама вялікія анклавы рускага насельніцтва, значныя для Расіі нафтаправоды. Ёсць «фактар Афганістана», ёсць вялікая імавернасць, што без прысутнасці заходняй вайсковай сілы сітуацыя ў рэгіёне пачне разгойдвацца.

**«НН»: Калі Вы кажаце пра не вельмі вялікія рызыкі для Беларусі, то чаго тады так спалохаўся Лукашэнка, калі пачаў казаць пра абарону краіны з «аўтаматам у руках»?**

**АП:** Тое, што кажу я, выходзіць з нейкіх прагматычных момантаў. Але ці прагматычна было Пуціну ўключаць Крым у склад Расіі? Канечне, не. А ён так зрабіў. Мы не ведаем, што ў галаве ў Пуціна. Рацыянальнае — гэта адно, паводзіны Расіі — іншае. Лукашэнка спалохаўся, бо дзеянні Расіі былі нечаканымі. Усе разумелі, што ва ўкраінскія справы будуць умешвацца, але што так — гэта шок. Лукашэнка не мае ніякай інфармацыі з Крамля, ён не ведае, як будзе паводзіць сябе Пуцін і яго атачэнне. Расійскія спробы ўплыву на Беларусь актывізаваліся, ігнараваць іх ужо немагчыма.

Гутарыў Зміцер Панкавец

# Гайдукоў: «Мяне пасадзілі за перапіску па электроннай пошце»

8 мая на волю выйшаў Андрэй Гайдукоў. Былога слесара «Нафтана» першапачаткова вінавацілі ў здрадзе дзяржаве, а пасадзілі за спробу на супрацы з ЦРУ.

**Як «амерыканцы» аказаліся «кадэбістамі»**

Свой арышт Гайдукоў звязвае з грамадска-палітычнай дзейнасцю. У 2010-м хлопец працаваў у штабе Андрэя Саннікава. Быў назіральнікам на выбарах, удзельнічаў у парламенцкай кампаніі. Летам 2011, падчас «маўклівых акцый», пазнаёміўся з Яўгенам Канстанцінавым. Неўзабаве стаў яго намеснікам па незарэгістраваным «Саюзе маладых інтэлектуалаў».

Хлопцы хацелі зарэгістраваць сваю арганізацыю. Натуральна, шукалі спонсараў для фінансавання дзейнасці.

«Мы звярталіся ў некалькі фондаў. Нам ніхто не адказаў», — кажа Гайдукоў. І раптам прыходзіць мэйл, нібыта ад амерыканцаў, з прыблізна такім зместам:

«Добры дзень! Мы радыя, што ў Беларусі ёсць маладыя дэмакратычныя арганізацыі, якія не згодныя з існуючай сітуацыяй».

Да свайго затрымання Гайдукоў верыў, што перапісваецца з амерыканцамі. І ўжо пасля даведаўся, што яго «развялі» беларускія спецслужбы.

«Фактычна, мяне пасадзілі за перапіску па электроннай пошце. КДБ задаваў пытанні выключна палітычнага характару. Якія людзі ў вашай арганізацыі? З якімі палітычнымі арганізацыямі вы сябруеце? Чым займаюцца вашы людзі? За што яны затрымліваліся? Чаго яны хочуць? Што вы ведаеце, што ўмееце, вашы сувязі....», — кажа Гайдукоў.

Было таксама і пытанне па «Нафтане» (акурат у той час, канец 2012 года, здарылася гісторыя з кантрабандай «распушчальнікаў»).

«Наша Ніва» папрасіла Гайдукова выслаць копію гэтага ліста ці хаця б узгадаць электронны адрас тых, з кім вёў перапіску. Аднак той сказаў толькі, што гэта была электронная скрыня на англамоўным дамене. Можа, не хацеў прызнаць, што сапраўды пісаў у ЦРУ, а не ў «фонд пры пасольстве ЗША»?


РАДЫЁ «СВАБОДА»

Таксама Гайдукоў ездзіў на сустрэчу з «амерыканцамі» ў Гродна. «Мне напісалі: прыязджайце, нас цікавіць ваша арганізацыя, мы разгледзім магчымасці фінансавання і абмяркуем асабіста. На сустрэчу я прыехаў, ніхто не прыйшоў. Потым мне напісалі ліст: «Прабачце, у нас не атрымалася да вас прыехаць. Паведаміце, колькі вы патрацілі на гэта сродкаў». Я паведаміў — 150 тысяч рублёў. Гэта праходзіла па справе. Потым ужо кадэбэшнікі падрыхтавалі 300 даляраў», — тлумачыць хлопец.

Праз пару дзён пасля вынясення прысуду намеснік пракурора па Віцебскай вобласці ў інтэрв'ю «Камсамолцы» заявіў: «У жніўні 2012 года ў спецслужбу паступіла аператыўная інфармацыя пра тое, што грамадзянін Беларусі хоча наладзіць сувязь з адной з выведслужбаў. Ён падрыхтаваў пісьмо: на англійскай мове напісаў адрас ЦРУ (куды ён звяртаецца), а потым па-руску — хто ён, што з сябе ўяўляе».

Як ліст да ЦРУ апынуўся ў руках КДБ?

У пачатку жніўня 2012 года сябра Гайдукова Ілля Багданаў з групай беларусаў ляцеў у Берлін. У яго быў з сабой ліст ад Гайдукова, які той мусіў быў адаслаць у ЗША з тэрыторыі Германіі. На мытні быў вобшук. І, верагодна, тады і перахапілі ліст, кажа Багданаў. Ліст ляжаў у кнізе, асобна быў аркуш з адрасам, куды трэба адправіць.

Багданаў сцвярджае, што, насуперак просьбе Гайдукова, не адпраўляў ліст, хоць і сказаў сябру, што зрабіў гэта: «Я падумаў, што, нават калі б і адправіў, ніякага адказу б не атрымаў, ён быў бы праігнараваны. А калі б прызнаўся, што не адправіў, ведаючы яго выбуховы характар, ён бы загнаўся на мяне».

**Аксана Рудовіч**

# Расійскія нацысты вярбуюць беларусаў

РНЕ заклікае мужычын уступаць у «праваслаўную армію Данбаса».

Ультраправая арганізацыя «Расійскае нацыянальнае адзінства (РНЕ)» на «афіцыйным сайце Беларускай рэгіянальнай арганізацыі» заклікала беларусаў далучацца да атраду добраахвотнікаў «праваслаўнай арміі Данбаса».

У паведамленні ад 9 мая гаворыцца, што запісацца ў шэрагі прарасійскіх сепаратыстаў могуць мужчыны, старэйшыя за 23 гады і з досведам вайсковай службы. Хто не адпавядае гэтым крытэрам, таксама могуць дапамагчы: для іх на сайце апублікаваны разлікова рахунак.



У якасці сувязнога ўказваецца актывіст РНЕ з Гродна Аляксандр Каравятнікаў.

Сам зварот вытрыманы ў лепшых традыцыях сучаснай расійскай прапаганды. У ім сцвярджаецца, што «ўзброены пераварот» ва Украіне «быў цалкам арганізаваны ЗША».

«Усе гэтыя адкіды вельмі моцна нагадваюць «нашых» мястачковых бэнээфаўцаў, якія на амерыканскія грошы хочуць зладзіць аналагічны бардак і ў нас у рэспубліцы», — у невялікім звароце РНЕ ажно двойчы запэўніла, што беларусы былі на Майдане, каб «перанесці пажар «каляровай рэвалюцыі» ў Беларусь».

На думку аўтараў зварота, гэтага рабіць нельга, бо вынікам будзе не толькі кровапраліцце, але і магчымая страта суверэнітэту краіны. Дзіўная логіка, улічваючы што РНЕ збірае атрады на дапамогу менавіта сепаратыстам, мэтай якіх ёсць разбурэнне Украіны як адзінай дзяржавы.

Калі інфармацыя пра рэкрутынг трапіла ў СМІ, РНЕ ў сваёй суполцы «Укантакце» надрукавала адказ, дзе папрасіла «ліберальныя СМІ» не вешаць на арганізацыю ўсе «штукі скінхедаў, бандэраўцаў і бэнээфаўцаў». Таксама заклікалі СМІ не называць арганізацыю «забароненай», хоць і ў Расіі, і ў Беларусі арганізацыя дзейнічае незарэгістравана.

Трэба адзначыць, што навінаў ад РНЕ доўгі час не было чуваць. Сама арганізацыя ўвогуле не адрознівалася актыўнай дзейнасцю з часоў забойства беларускага лідара РНЕ Глеба Самойлава ў 2000 годзе.

Апошняе гучнае з'яўленне РНЕ на беларускай медыяпрасторы было звязна з нападам на актывістак украінскай Femen у снежні 2011. Тады актывістка Аляксандра Нямчынава паведаміла, што пасля затрымання КДБ перадаў трох жанчын невядомым людзям, якія прадставіліся актывістамі РНЕ. Яны збівалі і здзекаваліся з актывістак, а потым высадзілі іх на мяжы з Украінай.

РНЕ адмежавалася ад катаванняў актывістак і назвала інфармацыю ў СМІ «найгрубейшай правакацыяй». Тая заява слова ў слова супадала з заявай КДБ.

Беларускія праваахоўныя органы пакуль не каментуюць сітуацыю. У прэс-службе КДБ паабяцалі «паведаміць у выпадку правядзення следчых мерапрыемстваў». Прэс-сакратар МУС Георгі Яўчар паведаміў, што «гэтая інфармацыя вядомая [МУС] і знаходзіцца пад кантролем».

«Гэта значыць, што праводзяцца неабходныя мерапрыемствы», — патлумачыў Яўчар.

**Яўген Крэйда**



# У Мінску ад сэрца памёр латвійскі заўзятар

Яму стала кепска ў гатэлі.

52-гадовы латвіец Ілмарс Мелушкалнс прыехаў на чэмпіянат свету па хакеі. Ён памёр у нумары гатэля ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна ў ноч на 12 мая.

«Па папярэднім заключэнні спецыялістаў Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз выяўлена, што смерць наступіла ў выніку ішэмічнай хваробы, артэрыяльнай гіпертэнзіі, сардэчнай недастатковасці, — паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Таццяна Беланог. — Дакладная прычына смерці і абставіны яе наступлення будуць вядомыя па выніках судова-медыцынскай экспертызы. Следчымі таксама вывучаюцца медыцынскія дакументы, якія перадаў сваяк памерлага, які прыехаў у Беларусь і знаходзіўся побач з ім напярэдадні трагедыі».

Ілмарс Мелушкалнс — старшыня Думы Рыебіньскага края (Латгалія). Належыць да Латвійскай партыі зялёных.

**СМ**

Цытата



**Мітрапаліт пра Лукашэнку: Ён нармальны праваслаўны чалавек**

«Ён нармальны праваслаўны чалавек. Ён не зусім дакладна выказаўся. Мы з ім размаўлялі на гэту тэму. Ён проста спрабаваў сказаць, што не штонядзелю ходзіць у царкву. Што ён не такі праваслаўны, як вы, хто кожны дзень ходзіць у храм, да споведзі, на прычасце. У каталікоў ёсць добры выраз: у іх ёсць каталікі практыкуючыя і ёсць мала практыкуючыя. Ён не вельмі практыкуючы. Хоць ён веруючы праваслаўны чалавек», — заявіў мітрапаліт БПЦ Павел на прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанне, як ён ставіцца да таго, што Лукашэнка называе сябе праваслаўным атэістам.

# Хто бярэ пазыкі пад 1825% гадавых?

Нацбанк хоча **забараніць «мікракрэдытаванне»**.

Рэклама мікрапазыкаў становіцца ўсё больш настойлівай. «Перахапіце грошы на пару дзён», «Затрымалі заробак — бяжыце да нас», «Твая апора ў патрэбную хвіліну» — заклікаюць патэнцыйных кліентаў.

Адкрыць сваю кампанію і пачаць пазычаць грошы беларусам даволі проста. Гэта не банкаўская ліцэнзія, для атрымання якой трэба мець вялікі капітал і адпавядаць спісу патрабаванняў.

Таму колькасць кампаній па выдачы мікрапазыкаў расце як на дражджах. Прынцып працы аднолькавы: невялікую суму (звычайна да 10 мільёнаў) можна ўзяць на невялікі тэрмін (звычайна да месяца).

### Ад 2% за дзень да 1825% за год

Галоўная перавага мікрапазыкаў у лёгкасці іх атрымання. Дастаткова мець пашпарт — і праз 15—30 хвілін грошы ўжо ў кішэні. Важная і канфідэнцыйнасць. У вашай крэдытнай гісторыі, якую захоўваюць банкі краіны, ніякіх запісаў пра пазыкі не будзе.

Вось толькі колькі давядзецца аддаваць? Стаўка па такіх мікрапазыках найчасцей складае 2% у дзень. Іншымі словамі, пазычыўшы 1 мільён рублёў, праз тры дні давядзецца аддаць на 60 тысяч больш. Нязначная пераплата, тым больш банк такімі дробнымі сумамі займацца не будзе.

Аднак кампаніі зацікаўленыя, каб пазычаць на як мага даўжэйшы тэрмін. У некаторых з іх мінімальны тэрмін пазыкі — тыдзень. А гэта ўжо пераплата на 14%.

Калі ж пратэрмінаваць вяртанне, умовы стануць надзвычай жорсткімі. У правілах некаторых мікрапазыкаў дробным шрыфтам пазначана, што ў такім разе стаўка ўздымаецца да 5% за дзень (фактычна 1825% гадавых!). І тады праз месяц замест мільёна рублёў давядзецца амаль 2,3 мільёна.

Некаторыя арганізацыі патрабуюць вяртаць ім грошы праз банкаўскі перавод. А гэта яшчэ невялікая камісійная даплата для кліента.

### Беспрацэнтныя крэдыты

Банкі не пакінулі рынкавую нішу мікрапазыкаў без сваёй увагі. Прычым прапановы выглядаюць нашмат больш выгаднымі. Паслуга «авердрафт», якую прапануе большасць банкаў, дазваляе кліентам сыходзіць «у мінус» пры разліку карткай. Стаўка за карыстанне сродкамі часам складае... 0%. Працэнты не налічваюцца, калі вярнуць грошы на працягу месяца.

Што праўда, каб аформіць такую крэдытную картку, трэба мець сталае месца працы і чакаць некалькі дзён. Дый зняць грошы наяўнымі, каб не «трапіць» на гіганцкую дадатковую камісію, не ўдасца.

А вось мікрапазыкі «пад 2% за дзень» можна траціць як заўгодна.

### Замест мікрапазыкаў — кааператывы

Неўзабаве гэтыя мікрапазыкі могуць стаць па-за законам. Улады рыхтуюць удар па шматлікіх арганізацыях, якія выдаюць хуткія грошы. Па словах старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай, прэзідэнцкім указам такія кампаніі будуць наўпрост забароненыя.

Паводле дакумента, мікрапазыкі змогуць выдаваць толькі так званыя спажывецкія кааператывы. Атрымліваць грошы ад іх змогуць толькі сябры кааператываў. Дзейнасць такіх арганізацый зараз рэгулюецца Грамадзянскім кодэксам.

Каб уступіць у кааператыў, пайшчыку давядзецца спачатку заплаціць уступны ўзнос і толькі пасля плаціць грошы. А калі ў арганізацыі ўзнікнуць страты, кампенсаваць іх давядзецца ўсім пайшчыкам.

**Ягор Марціновіч**

# У Мінску знеслі знакаміты «дом з плакатамі»

Гаспадар праз суд **дабіўся кампенсацыі** і атрымаў тры кватэры.

Дом на праспекце Дзяржынскага ў Мінску, вядомы сваімі плакатамі-зваротамі да Лукашэнкі, знеслі. Судовая цяганіна са знакамітым катэджам доўжылася каля сямі гадоў.

Дом трэнера Аляксея Васкабовіча хацелі знесці для будаўніцтва метро. Станцыя «Міхалова» адкрылася ў лістападзе 2012 года, але дом заставаўся на сваім месцы, нікому не замінаючы.

У двухпавярховым цагляным доме жылі дзевяць чалавек: тры сям'і Васкабовічаў — бацькі і два сыны з жонкамі і дзецьмі. Гарадскія ўлады збіраліся выселіць іх у дзве кватэры, плошча якіх значна меншая за плошчу дома. Пасля жыхароў абавязалі выселіцца ў пяціпакаёвую кватэру, таксама меншую па плошчы.

У выніку Васкабовічы атрымалі тры кватэры агульнай плошчай, раўназначнай плошчы дома, — каля 270 м². Перамовы аб грашовай кампенсацыі зямельных насаджэнняў і гаспадарчых пабудоў яшчэ вядуцца. Пасля сямі гадоў судоў такі варыянт задаволіў Васкабовічаў .

«Усе суды, якія былі, мы выйгралі. Да Вярхоўнага суда даходзілі тры разы, — кажа Дзяніс Васкабовіч. — У выніку адміністрацыя Маскоўскага раёна села з намі за стол перамоваў. Думаю, людзі можа паўтарыць гэты шлях».

А на месцы дома неўзабаве пачнецца будаўніцтва новага жыллёвага комплекса.

**Паводле: Марына Варабей, tut.by**






# Якія цэны ў Беларусі хоча змяніць Расія?

Плануюць зменшыць міжнародныя **тарыфы на чыгунку**.

Федэральная антыманапольная служба Расіі не пакідае надзеі адрэгуляваць цэны на тэрыторыі Мытнага саюза. Якія цэны прапануецца змяніць у Беларусі, Расіі і Казахстане?

Перадусім — адмяніць вялізныя тарыфы на роўмінг. Напрыклад, абанент «Вэлкома», які захоча патэлефанаваць з Расіі ці Казахстана ў Беларусь, зараз заплаціць за хвіліну 11,5 тысячы рублёў, МТС — 9,5 тысячы, «Лайфа» — 5,5 тысячы. Чыноўнікі прапануюць пайсці па шляху Еўрасаюза і наблізіць тарыфы на званкі ўнутры Мытнага саюза да тарыфаў на званкі ўнутры краіны.




**«Белавія» працягвае абнаўляць свой паветраны парк. Кампанія закупіла два новыя бразільскія самалёты Embraer 195LR, здольныя перавозіць 107 пасажыраў і ляцець на адлегласць да 4 тысяч кіламетраў.**

Спажыўцоў закрануць і магчымыя змены ў тарыфах на чыгуначныя і авіяперавозкі. «Пры папярэдняй куплі цана авіябілета паміж сталіцамі Беларусі, Расіі і Казахстана нават меншая за кошт праезду ў купэйным вагоне па тым жа маршруце», — абураецца кіраўнік Федэральнай антыманапольнай службы Расіі Ігар Арцем'еў.

Напрыклад, месца ў купэ пры праездзе з Мінска да Масквы каштуе каля $130 за ноч паездкі, хоць за квіток на самалёт па тым жа маршруце давядзецца аддаць усяго $105. Сітуацыя з дарогай да Астаны яшчэ больш абсурдная — $240 да $400 на карысць самалёта, прытым што дарога на цягніку займае больш за трое сутак. Антыманапольная служба патрабуе ад чыгункі не завышаць тарыфы.

**ЯМ**

## Сцісла

### Найбольш даражэюць капуста, бананы і свініна

Ад пачатку года цэны ў Беларусі выраслі на 6,6%, пры гэтым за красавік — на 1,6%. Найбольш падаражэлі капуста (па падліках Белстата, кілаграм цяпер каштуе 6500 рублёў), бананы (22 тысячы) і свініна (80 тысяч).

### У шклоўскі завод паперы ўкладаюць $100 мільёнаў

На прадпрыемстве плануецца стварыць вытворчасць па выпуску паперы-асновы для дэкаратыўных абліцовачных матэрыялаў. Будаваць і камплектаваць аб'ект будзе чэшская кампанія Papcel. Вытворчасць павінна запрацаваць у наступным годзе. Інвестар атрымаў вялікія льготы ад беларускага ўрада.

### Даражэе харчаванне ў школах і садках

З 13 мая нормы выдаткаў на харчаванне ва ўстановах адукацыі павялічыліся на 6%. Напрыклад, цяпер для дзяцей ва ўзросце 3—6 гадоў харчаванне на дзень будзе каштаваць 22 тысячы рублёў. З 1 красавіка бацькі аплачваюць 100% кошту харчавання сваіх дзяцей у садках.

### Кіраўніцтва спраў прэзідэнта набыло сабе банк

Ва ўласнасць арганізацыі перайшоў «Парытэтбанк». З гэтага часу Кіраўніцтва валодае 55% акцый «Парытэтбанка», у Нацбанка засталося 45%.

У апошнія некалькі гадоў улады Беларусі разглядалі продаж «Парытэтбанка» стратэгічнаму інвестару. Аднак бакі не змаглі сысціся ў цане.

### У страхавой кампаніі B&B Insurance прыпынілі ліцэнзію

Міністэрства фінансаў прыпыніла дзеянне ліцэнзіі ў сувязі з невыкананнем патрабаванняў па страхавых рэзервах. B&B Insurance — адна з найбуйнейшых прыватных страхавых кампаній Беларусі. Кампанія спадзяецца, што праз месяц ліцэнзія будзе вернутая.

**ЯМ**

# Пакараны смерцю Рыгор Юзапчук, чый стрыечны брат быў расстраляны пяць гадоў таму

Ён забіў свайго сукамерніка з «нізкім сацыяльным статусам».



Магілёўскі абласны суд паведаміў, што ў адносінах да Рыгора Юзапчука выкананы смяротны прысуд. 45-гадовы мужчына асуджаны за забойства сукамерніка. Той нібыта прайграў сваё жыццё ў даміно.

Смяротны прысуд Рыгору Юзапчуку, вынесены 23 красавіка 2013, не выклікаў вялікага рэзанансу. Гэта звязана з адсутнасцю інфармацыі пра справу, пра асобу самога забойцы. Доўгі час афіцыйныя органы не называлі нават прозвішча асуджанага.

### Крымінальная гісторыя Юзапчука

Пазней грамадскасці стала вядома, што Рыгор Юзапчук нарадзіўся ў Жытомірскай вобласці (Украіна) у 1969 годзе, па нацыянальнасці — цыган, без пэўнага месца жыхарства. Ён быў судзімы сем разоў.

Апошні тэрмін — 25 гадоў — Юзапчук атрымаў за двайное забойства. Паводле інфармацыі перадачы «Таямніцы следства» на БТ, ён уступіў у інтымную сувязь з жанчынай, а іх сабутэльніку гэта не спадабалася. Ахвяраў ён закалоў нажом «на глебе рэўнасці». За гэта Юзапчука накіравалі ў Магілёўскую турму №4, дзе 5 чэрвеня 2012 ён здзейсніў чарговае забойства. На гэты раз — свайго сукамерніка.

Ягоная чарговая ахвяра, сірата і дзетдомавец 22-гадовы Ігар Хадакоў, быў асуджаны на 18 гадоў за тое, што падчас сваркі забіў роднага дзядзьку, які дагледаў яго.

У сюжэце БТ адзначалася, што Юзапчук здзейсніў забойства разам з яшчэ адным сукамернікам. Усе трое нібыта вырашылі згуляць у даміно — на жыццё. Таго, хто прайграў, задушылі.

У гэтай гісторыі адразу некалькі важных пытанняў застаюцца без адказаў.

Па-першае, забойства здзейснена ў так званай «крытай турме», што прадугледжвае асабліва ўзмоцнены нагляд за асуджанымі. Азартныя гульні строга забароненыя.

У сюжэце адзначалася, што ў дзень забойства ахоўнік двойчы падыходзіў да дзвярэй камеры і бачыў, што вочка на дзвярах, праз якое наглядчыкі сочаць за парадкам, залеплена газетай.

Дэпартамент выканання пакаранняў так і не паведаміў, ці былі прыцягнуты да адказнасці нехта з адміністрацыі турмы за тое, што там адбылося забойства.

Па-другое, Юзапчука за парушэнне парадку змясцілі ў камеру, дзе ўжо знаходзіліся двое зэкаў з так званым «нізкім сацыяльным статусам». Гэта значыцца, што ў іншых камерах іх прымушалі б выконваць усю брудную працу, ніхто з сядзельцаў да іх не дакранаўся і пры магчымасці нават не размаўляў. «Належалі да іншай турэмнай касты», — характарызуюць зэкаў у сюжэце БТ.

Апроч Хадакова, у камеры №10 сядзеў 22-гадовы Павел Петракоў, якога асудзілі на 10 гадоў за згвалтаванне заведама непаўналетняга. Маладыя зэкі пасябравалі, вучылі адзін аднаго італьянскай мове.

Мяркуецца, што паміж гэтымі мужчынамі была сэксуальная сувязь. Паказальны факт: да свайго падзельніка Петракова Юзапчук звяртаўся жаночым імем. Петракоў, расказваючы пра смерць сябра, не хавае слёз.

Перавод у такую камеру Юзапчука, які шмат год знаходзіўся за кратамі, не мог быць выпадковым. Адміністрацыя папраўчай установы ведае, што, па правілах зоны, чалавек, якога змясцілі ў такую камеру, павінен або «ўскрыць» сябе, або забіць таго, хто мае гэты самы нізкі сацыяльны статус.

Звычайнага чалавека такія парадкі здзіўляюць і абураюць, але ў беларускіх турмах, на жаль, жывуць не толькі па законах, але і па сваіх паняццях.

### Чаму сістэма маўчыць пра расстрэлы?

23 красавіка 2013 года Магілёўскі абласны суд прыгаварыў Рыгора Юзапчука да смяротнага пакарання. Справу разглядалі ў Магілёўскім СІЗА ў закрытым рэжыме. Вярхоўны суд пакінуў прысуд у сіле.

У Магілёўскім судзе «Нашай Ніве» пацвердзілі: Юзапчука расстралялі. Дату выканання прысуду і месца яго пахавання трымаюць у сакрэце. Міністэрства ўнутраных спраў аднесла гэтую інфармацыю «толькі для службовага карыстання».

Праваабаронца Андрэй Палуда, які мае досвед працы ў праваахоўчых органах, кажа, што завеса сакрэтнасці, якая існуе вакол смяротнага пакарання, — спадчына савецкіх часоў. «Гэта практыка НКВД, калі людзей расстрэльвалі тысячамі. Як прыклад, гісторыя Курапатаў. Тагачасныя інструкцыі — схаваць колькасць забітых, не паведамляць грамадству, хто і за што расстраляны, — дайшлі да сённяшняга часу. Сваякам не выдаюць цела расстралянага. Ім не паведамляюць месца, дзе пахаваны чалавек. А грамадству, калі толькі праваабаронцы і журналісты не падымаюць гэту тэму, нават не агучваюць, калі прысуд быў выкананы. Пры гэтым чыноўнікі ўвесь час паўтараюць: смяротнае пакаранне стрымлівае злачыннасць. Дык чаму ж яны тады адкрыта не гавораць пра расстрэлы?»

**По правілах зоны, Юзапчук быў павінен або «ўскрыць» сябе, або забіць сукамернікаў з іншай турэмнай касты »**

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International накіроўвала запыт беларускім уладам. З адказу вынікае, што ў 2013 ніводзін смяротны прысуд не выконваўся. Гэта дазваляе меркаваць, што Юзапчука расстралялі сёлета.

«Былы начальнік мінскага СІЗА №1 Алег Алкаеў расказваў, што расстрэльная каманда звычайна збіраецца для выканання адразу некалькіх прысудаў. Таму Рыгора Юзапчука маглі забіць разам з Паўлам Селюном. Пра расстрэл апошняга адвакату паведамілі 18 красавіка, хоць афіцыйнага пацвярджэння дагэтуль няма», — адзначыў Палуда.

### Яшчэ адзін расстраляны Юзапчук

У 2009-м прозвішча «Юзапчук» ужо фігуравала ў «расстрэльных спісах». Тады да смяротнага пакарання асудзілі непісьменнага Васіля Юзапчука, таксама цыгана па нацыянальнасці. Яго абвінавацілі ў здзяйсненні серыі забойстваў пенсіянерак.

Праваабаронцы знайшлі пацвярджэнне, што абодва расстраляныя — Васіль і Рыгор — стрыечныя браты.

Адвакаты, якія абаранялі Васіля, казалі, што ў аснову прысуду леглі абвінавачы паказанні супрацоўнікаў міліцыі. Медыцынская экспертыза паказала, што ў асуджанага лёгкая ступень разумовай адсталасці, ён кепска арыентуецца ў наваколлі. Дарэчы, пасля расстрэлу Юзапчука ў Кобрынскім раёне былі зафіксаваныя новыя забойствы пенсіянерак.

Адар'я Гуштын

**Хто яшчэ чакае смерці?**

У красавіку Вярхоўны суд пакінуў у сіле два смяротныя прысуды — 26-гадоваму гамельчуку Аляксандру Грунову за жорсткае забойства студэнткі і 54-гадоваму Эдуарду Лыкаву за пяць забойстваў, здзейсненых на працягу дзевяці год.

# Лукашэнка прыйшоў на хакей разам з Дар'яй Шманай

Падчас гульні Беларусь — ЗША тэлекамеры выхапілі на трыбунах Аляксандра Лукашэнку. Праваруч ад яго сядзіць сын Мікалай, а злева... загадкавая брунэтка Дар'я Шманай.

Упершыню дзяўчына выйшла ў свет падчас звароту Аляксандра Лукашэнкі да парламента і народа, калі апынулася сярод чыноўнікаў.

Дар'я — пераможца конкурсу «Каралева Вясна — 2013». Сёлета яна заканчвае ўліковаэканамічны факультэт БДЭУ.

На скрыншоце з навінаў на СТВ відаць, што Дар'я Шманай раней займалася пратакольным суправаджэннем на мерапрыемствах з удзелам Аляксандра Лукашэнкі.

Ягор Марціновіч





# Пакідаў на стале часопісы

За нафтавіком **сачылі год**.

На гэтым тыдні ў Мінску вынесуць прысуд былому намесніку канцэрна «Белнафтахім» Уладзіміру Волкаву. Дзяржабвінаваўца патрабуе для яго восем гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

Аператыўнікі ўзялі чыноўніка «пад каўпак» задоўга да арышту: праслухоўвалі тэлефон, вялі відэаназіранне на працы. А калі з лютага 2013 да яго зачасціў чалавек, што пакідаў на стале ў нафтавіка часопісы, ухапіліся за нітачку.

Волкава арыштавалі ў сваім кабінеце 7 кастрычніка 2013 года. Менавіта ў гэты дзень, па інфармацыі следчых, ён атрымаў чарговыя грошы — $1000. Абвінавацілі, што з лютага па кастрычнік таго года браў хабар за спрыяльнае вырашэнне пытанняў.

### Часопісы і канверты

«Белнафтахім» — дзяржканцэрн, які аб'ядноўвае прадпрыемствы, што займаюцца здабычай і перапрацоўкай нафты. Гэта адна з ключавых сфер беларускай эканомікі, і грошы ў ёй кружацца каласальныя. Што ж нарабіў Волкаў? Паводле абвінавачвання, ён вырашыў пытанне з перапрацоўкай мазуты ў бітум на карысць прыватнай кампаніі «Тэра». Нафтаперапрацоўчыя заводы патрабавалі адказу з канцэрна, што там не супраць замовы «Тэры». Кампанія накіравала запыт у «Белнафтахім». А калі праз тыдзень не атрымала адказу, спецыяліст па продажах Шэлег накіраваўся да свайго даўняга знаёмца Волкава. Пакінуў на стале ў чыноўніка часопіс, у якім, як пасля заявіў, знаходзіліся $3000. У выніку ліст быў падпісаны ў той жа дзень.

Шэлег прыходзіў да чыноўніка амаль штомесяц і пакідаў часопісы і канверты. Праўда, на камеру так і не было зафіксавана ні размоў пра грошы, ні саміх грошай. Ужо пасля затрымання абодвух знайшлася «апошняя» тысяча даляраў. Волкаў адмахнуўся — маўляў, падкінулі: у кабінеце перад затрыманнем яго не было паўтары гадзіны, а на купюрах няма біялагічных слядоў хабарадаўцы.

Падчас следства Шэлег расказаў, што перадаў чыноўніку $19 тысяч. Валюту выдзяляў кіраўнік «Тэры» Яўген Данішэўскі. Але пасля здаў назад: грошы ніхто не патрабаваў, на роднай фірме пра гэта не ведалі, а сумы браў са сваіх прэміяльных. І плаціў Волкаву за парады — ніякі не хабар. Змянілася і выніковая сума — каля $11 тысяч. Ранейшыя паказанні ён патлумачыў тым, што яго падманулі аператыўнікі: заявілі, што менеджар ва ўсім прызнаўся, і прапанавалі напісаць на яго заяву за вымаганне хабару. Шэлег пасля затрымання пачаў супрацоўнічаць са следствам, за што яго вызвалілі ад адказнасці.

На судзе высветлілася цікавая акалічнасць. У канцэрне дазволы на перапрацоўку мазуты ў бітум давалі ўсім, як дазвалялі і экспартаваць яго. У 2012—2013 экспарт бітуму быў справай стратнай, і дазволы насілі фармальны характар. Яны мелі значэнне, калі прадаваць за межамі краіны было значна выгадней. «Белнафтахім» тады кантраляваў унутраны рынак — каб не пакінуць яго пустым.

### Просты чыноўнік

Уладзімір Волкаў віны не прызнае. На ўсе эпізоды ў яго ёсць тлумачэнні. «Пасля візіту Шэлега [першы візіт у лютым 2013] я нічога не прыспешваў. Шэлег напісаў ліст 18 чысла і атрымаў адказ 26. Нарматыў — 15 дзён. Рашэнне — калегіяльнае, падпісанае не толькі падначаленымі мне асобамі. Як можна даць хабар за накіраванне на горшы рынак [Шэлег прасіў для кампаніі дазвол на экспарт бітуму]? Вядома, што кампанія працавала на абсалютна аднолькавых умовах з усімі».

Волкаў лічыць, што трапіў пад падазрэнне праз сваю адкрытасць для бізнэсоўцаў. «У Беларусі шмат гаворыцца пра дэбюракратызацыю. Калі чыноўнік задзёр нос так, што да яго ніхто падступіцца не можа, ён можа пазбавіцца сваёй пасады. А калі чыноўнік даступны для наведванняў, маю на ўвазе сябе, то дастаткова любому чалавеку сказаць, што ён прыходзіў на прыём і грошыкі былі прышпілены да гэтай паперкі, і ты — у турме».

Між іншым, на маёмасць Волкава наклалі арышт: $100 тысяч, дзве кватэры ў Мінску, гараж, аўтамабіль «БМВ». Чыноўнік патлумачыў: «Маёмасць складае 50% ад майго заробку. Я палічыў».



**«Я шмат працаваў...»**

Уладзіміру Волкаву 51 год. Ён з тых спецыялістаў, хто на кіруючую пасаду прыйшоў з самага нізу. Прычым паміж практыкай у яго была навуковая праца — у Наваполацкай політэхніцы. «Інтарэсы службы заўжды былі ў мяне на першым плане», — заявіў ён у апошнім слове.

«У 2000 мне было 38 гадоў — добра складваецца універсітэцкая кар'ера. Але прыходзіць разуменне, што атрыманыя веды трэба выкарыстаць у рэальным сектары эканомікі. Я сышоў на пасаду шарагова спецыяліста [у «Белнафтахім»]. Я шмат працаваў, у жыцці чагосьці дасягнуў. А гэта быў адкат на 12 гадоў назад. Але я разумеў, калі ўсё будзе атрымлівацца, то будуць і пасады».

Рост сапраўды быў. Ён стаў начальнікам аддзела, начальнікам упраўлення, начальнікам галоўнага ўпраўлення. У канцы 2006 яго прызначылі намеснікам старшыні канцэрна. На час, калі канцэрн пазбавіўся кіраўніка (арыштавалі) у 2007-м, два месяцы быў выконваючым яго абавязкі.

**Сяргей Макарэвіч**

# На Браншчыне разбіўся прарэктар Гомельскага ўніверсітэта

«Аўдзі» сутыкнулася **з КамАЗам**.

Аварыя адбылася раніцай 26 красавіка на 2-м кіламетры дарогі Трубачўск—Бранск. «Аўдзі А6», у якой ехаў беларус, сутыкнулася з КамАЗам. Кіроўца легкавіка пры абгоне не ўпэўніўся ў бяспечнасці манеўру і ўрэзаўся ў грузавік, які паварочваў. У выніку Сяргей Ханеня, які быў пасажырам, атрымаў значныя траўмы. 11 дзён ён яшчэ знаходзіўся ў бальніцы, але 6 мая памёр. У аварыі пацярпела і 25-гадовая пасажырка «Аўдзі», але траўмы былі не такімі цяжкімі, і яе адпусцілі лячыцца дадому.

Сяргею Ханеню было 50 гадоў. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Ён працаваў прарэктарам па выхаваўчай рабоце ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце, які і сам скончыў. Пры ім адбылося адлічэнне моладзевага актывіста Змітра Жалезнічэнкі.

У 2010 Сяргей Ханеня судзіўся з газетай «Народная воля». Выданне апублікавала дэкларацыі кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў, у тым ліку прарэктара. Але пазначылі, што гэта гадавы заробак, а не агульны даход. Ханеня хацеў спагнаць з рэдакцыі амаль 100 мільёнаў рублёў. Яшчэ да суда газета апублікавала папраўленую інфармацыю. У выніку пазоў не задаволілі.

**Кастусь Матушыч**


«Народная воля»

# П'яны масквіч разбіў скрадзеную машыну і кінуўся на ўцёкі

Адпачынак у Беларусі скончыўся **пад следствам**.

Кампанія расійскіх турыстаў вырашыла адпачыць на аграсядзібе каля Белавежскай пушчы. Праўда, звялі ўсе забавы да п'янкі. Расклаўшы рэчы, яны накрылі стол і пачалі выпіваць. 30-гадовы Дзмітрый пасля пары чарак захмялеў і нешта не падзяліў са сваёй сужыцелькай — пасварыліся. Пасля псіхануў і выйшаў з паляўнічай хаткі на вуліцу. А там на вочы і трапілася «Пежо» наглядчыка аграсядзібы.

Масквіч сеў у незачынены салон чужой машыны і на ваčах у гаспадара з'ехаў. Праз якія паўкіламетра не даў рады кіраванню і ўрэзаўся ў дрэва. У такой сітуацыі яму трэба было вярнуцца ды пакаяцца ў зробленым, але ён пусціўся на ўцёкі. На дызелі дабраўся да Ваўкавыска. Як толькі ён выйшаў з вагона, трапіў на супрацоўнікаў транспартнай міліцыі. Тыя з падазрэннем паставіліся да бруднага і п'янага пасажыра, які не мог растлумачыць, куды кіруецца.

Распачата крымінальная справа за крадзеж. Акрамя таго, на расійскага турыста склалі тры пратаколы: за кіраванне аўто без правоў, у стане ап'янення і здзяйсненне на ёй ДТЗ.

**Паводле «Гродзенскай праўды»**

## Сцісла

### Згарэла дзіця

Пры пажары ў вёсцы Лаці Докшыцкага раёна загінулі бабуля і яе 4-гадовы ўнук. Дзядзька хлопчыка паспеў выскачыць з ахопленага полымем дома. Мяркуецца, што ўначы адбылося кароткае замыканне халадзільніка.

### Закалоў нажом і відэльцам

29-гадовы хлопец у верасні 2013 года прыйшоў на кватэру да 19-гадовай каханкі нападпітку. Пасварыліся. Мужчына схапіў нож і відэлец — 84 разы стукнуў імі дзяўчыну. Цяпер адправіцца за краты на чвэрць стагоддзя. Яшчэ павінен выплаціць бацькам забітай 50 мільёнаў рублёў.

### У нелегала забралі машыну

Жыхара пасёлка Рось Ваўкавыскага раёна тройчы судзілі за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць — за нелегальную перавозку пасажыраў. На чацвёрты раз трапіўся, калі ўзяў 10 тысяч рублёў за праезд. У яго канфіскавалі старэнькую «Мазду 626». І аштрафавалі на 2 мільёны 250 тысяч рублёў.

**КМ**

# Беларуская «супермадэль свету»: «Майму джыпу на расійскіх нумарах у Мінску прабілі колы»

Кацярына Зінгарэвіч (Даманькова) адзначае, што аўто з беларускімі нумарамі **не пацярпелі**.



Мадэль Кацярына Зінгарэвіч (Даманькова) пакінула запіс у Інстаграме, у якім скардзіцца, што яе джып з расійскімі нумарамі стаў ахвярай хуліганаў. У машыне пракалолі ўсе колы, а таксама выбілі вокны. Суседнія аўто з беларускай рэгістрацыяй засталіся цэлымі.

«Мяне вырашаюць пакараць за тое, што я звязаная з Расіяй? Ваша пакаранне ўжо грукаецца да вас у дзверы ў выглядзе барадатай «жанчыны», — абураецца яна.

Кацярына Даманькова нарадзілася ў 1988 у Мінску. У 2006 яна перамагла ў конкурсе «Супермадэль свету» ў ЗША. У 2010-м дзяўчына падпісала кантракт з сусветна вядомым брэндам жаночай бялізны Victoria's Secret. Даманькова выйшла замуж за расійскага бізнэсмена Антона Зінгарэвіча, уладальніка футбольнага англійскага клуба «Рэдынг». Жыве пара ў Вялікабрытаніі.

**ІН**




ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Фотафакт**

**Магніцік з Лукашэнкам прадаецца ў цэнтры Мінска**

Магніцік з партрэтам кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнкі прадаецца ў ГЦ «Сталіца» ў Мінску. Уся-го за 25 тыс. рублёў (2,5 даляра). Праўда, пасля таго, як журналіст сфатаграфавала сувенір, прадаўшчыца зняла магніцік і надзейна схавала.

## Беларусь выйшла на першае месца ў свеце па спажыванні алкаголю

Такая выснова ўтрымліваецца ў Глабальным дакладзе аб становішчы ў галіне алкаголю і здароўя, распаўсюджаным Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя (СААЗ).

Як высветлілі эксперты, у Беларусі за год спажываюць у пераліку на чысты спірт 17,5 л на чалавека за год. Гэта амаль у тры разы больш за сярэдні паказчык па свеце (6,2 літра чыстага спірту).

Другое месца займаюць жыхары Малдовы (16,8 л), трэцяе — Літвы (15,4 л). На чацвёртым месцы – Расія з 15,1 л. Пяты радок заняла Румынія, шосты – Украіна. Сёмая — Андора, восьмая — Вугоршчына, далей ідуць Чэхія і Славаччына.

У Беларусі сустрэць п'янага на вуліцы, будпляцоўцы — не рэдкасць. Алкаголь глыбока пранік у традыцыі арміі і сямейных урачыстасцяў.

СААЗ нагадвае, што моцныя п'янкі руйнуюць здароўе. Алкаголь з'яўляецца прычынай 5,9% смерцяў на планеце. Гэта больш, чым ад ВІЧ/СНІДу і сухотаў.

**Сяргей Гезгала**

# У чым сакрэт поспеху Анжалікі Агурбаш?

Спявачка Анжаліка Агурбаш усё радзей з'яўляецца ў навінах праз сваю творчасць. Часцей публікацыі звязаныя з сямейнымі скандаламі, што пераследавалі яе падчас апошняга разводу з расійскім бізнэсоўцам, «кілбасным каралём» Мікалаем Агурбашам. Не паспела аціхнуць драма, як Анжаліка зноў выходзіць замуж. Новы жаніх — таксама пры грашах, казахскі бізнэсовец Анатоль Пабіяха. Чым яна іх бярэ? У чым сакрэт поспеху?



Паэт Уладзімір Някляеў, песні на чые словы Агурбаш выконвала, разважае пра феномен спявачкі.

«Бярэ неймавернай прыгажосцю. Гэта найпершы талент, які ёй даў Бог.

Апроч прыгажосці ў яе ёсць і талент артысткі. Васіль Раінчык і я на конкурсе прыгажасці яе заўважылі, і пачалася з ёй праца як са спявачкай. Трэба ёй аддаць належнае: такой упартай, працаздольнай спявачкі я ні да яе, ні пасля не сустракаў. Яна стаяла перад дзвярыма класа ў філармоніі, дзе месціліся «Верасы», раней за ўсіх. Вучыцца ёй трэба было шмат: не мела неабходнай адукацыі, не быў пастаўлены голас, не ўмела ім належна карыстацца. І ўсё, што зрабіла Анажаліка, апроч дадзенай ёй Богам прыгажосці, зроблена яе працай».

**Кастусь Матушыч**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Апошні салют

Ужо і не памятаю, у якім годзе тое было. Здаецца, у 1992-м, калі міністрам абароны быў прызначаны Павел Казлоўскі. Тады ўпершыню і толькі аднойчы за ўсе мінулыя да сёння дваццаць два гады 9 мая ў 22.00 мясцовага часу па загадзе міністра абароны ў Мінску павінен быў адбыцца «святочны феерверк», што ў перакладзе з нямецкай мовы азначае «дэкаратыўныя каляровыя агні».

Што праўда, сапраўдных феерверкаў, гэтых цудаў піратэхнікі, мінскае неба да таго часу не бачыла. Куды больш звыклымі былі традыцыйныя салюты «...цаццю артылерыйскімі залпамі». То бок дзейства класічна строгае, якое павінна сімвалізаваць *дзяржаўную* сутнасць свята. Вясёлая легкадумнасць феерверкаў, калі душа, што прагне святочнай забавы, атрымлівае магчымасць пракаціцца па небе на агнявой калясніцы, заўжды была далёкай ад ідэалагаў дзяржаўнай моцы. І, канечне, было нешта нечаканае ў рашэнні тагачаснага міністра абароны адмовіцца ад звыклай мілітарысцкай традыцыі, адсвяткаваць Дзень Перамогі не артылерыйскімі залпамі, але «дэкаратыўнымі каляровымі агнямі»...

Ні таго, ні іншага ў Мінску тады не адбылося. Калі не лічыць некалькіх «букетаў», што бязгучна распусціліся і адразу звялі над аддаленымі мікраёнамі. Між тым, у цэнтры горада, на плошчы Перамогі і вуліцах паблізу, на мосце праз Свіслач, у цёмнай вадзе якой зіхацелі рэдкія начныя агні, сабраліся ў чаканні святочнага феерверку дзясяткі тысяч людзей. Увесь дзень пасля афіцыйнага ўскладання вянкоў у горадзе панавалі нудота і пустэча. А ў 22.00...

Я слухаў размовы ў натоўпе. Нехта палічыў, што вайскоўцам не хапіла пораху, што салюты і феерверкі — справа дарагая, а мы жабракі, у бюджэце спрэс дзіры. Нехта з гараччу заўважыў, што войска развалілася і дрэнна выконвае загады. «Прычым тут войска? — запярэчылі яму. — Гэта ўлады памыліліся, думалі, што народ па хатах сядзець будзе, піць горкую. Ды і як зараз дадому дабірацца? У транспарт не ўлезці, а таксоўка — самі ведаеце...» — «Ды не, — адгукнуўся малады чалавек у акулярах і белай, не па начной прахалодзе кашулі, — яны проста страшацца, калі збіраемся больш за трох...» Недалёка моўчкі прыхінуўся да дрэва вясковага выгляду стары на кавяле і з трыма медалямі на прымятым пінжаку. «Усё, бацька, — махнуў рукой той, што ў акулярах. — Здымай узнагароды, скончылася свята...»

Я не ведаў тады, скончылася яно 9-га ці скончылася назаўсёды. І ці не было прадвесцем гэтага канца нейкае падабенства глухога салюту над гарадскімі ўскраінамі?

Напярэдадні маскоўскае тэлебачанне паказала тоўстага чалавека ў падцяжках, які праходзіў па рангу «незалежнага маскоўскага

## Немцы, перажыўшы ў той вайне перамогу над сабой, перамаглі вайну ў сабе



журналіста». Грубаватая праставатасць аблічча і асаблівая даверлівасць тону абуджалі ўвагу да выкладаных думак. Галоўная сярод іх — Дзень Перамогі далей святочным быць не павінен. Тут, канечне, узнікала складаная інтэлектуальная калізія, якую паспяхова вырашалі камін і падцяжкі, робячы даходлівай саму думку: разам з таталітарным рэжымам павінен быць разбураны і гэты пераможна-святочны Карфаген. Хопіць, маўляў, прыніжаць адоленага ворага...

Насамрэч — якое на крыві свята?!

Але ці не дзіўна — «вораг» сам лічыць гэты дзень ці не галоўным у сваёй трагічнай гісторыі!

Колькі разоў мы чулі ад суграмадзян традыцыйна-савецкае здзіўленне «парадоксам»: маўляў, немцы вайну прайгралі — а як жывуць! Хто ж перамог?!

Але парадоксу няма — немцы, перажыўшы ў той вайне перамогу над сабой, перамаглі вайну ў сабе. А мы ўсё ваюем, цешымся перамогай над імі, бразгаем зброяй...

Мо таму так і жывём?

Мо таму так і жывём, што не зважаем, як спекулюе на перамозе ўлада ў нязд0льнасці забяспечыць годнае жыццё, у пошуку знешніх і ўнутраных ворагаў, у змярцвенні перад небяспечнымі гульнямі ўласных фашыстуючых малойчыкаў, у падтрымцы нястрымнай агрэсіўнасці Крамля — што б ні прамаўлялася нібыта незалежнае і самастойнае пад выццё над Беларуссю расійскіх знішчальнікаў...

Вось і ўзнікае пытанне: хто вораг? І над кім была атрымана перамога?

Колькі ні было б гаворана пра тую перамогу ганарліва-пафасных альбо абвяргальна-злавесных слоў, непарушнай, упэўнены, застанецца яе сутнасць: перамога над нацызмам была і застаецца прадвесніцай перамогі над уласным таталітарызмам.

Над вайной.

Час пасцірае з твару Перамогі фальшывыя рысы, усе грымасы прапагандысцкай крывадушнасці. Пасцірае. Ці новай вайной, у якой ужо не будзе ні перамог, ні параз. Ці праўджанай надзеяй на тое, што перамога ўрэшце паўстане калі не перад намі, дык перад дзецьмі нашымі і ўнукамі ў чыстым выглядзе перамогі людскага над звярыным.

Перамогі народу.

Таго, што «закапалі ў шар зямны».

І таго, хто ў чаканні салюту моўчкі прыхінуўся на кавяле да дрэва і не саромеецца сціплых узнагарод...

*kamerton_41@mail.ru*

# «На кожнай гульні зборнай Расіі зарабляю па паўмільёна»

Хто павялічыў прыбыткі дзякуючы чэмпіянату свету па хакеі?

Чэмпіянат свету па хакеі каштаваў Беларусі не менш за $700 мільёнаў. Гэтыя грошы былі патрачаныя дзяржавай і інвестарамі як непасрэдна на правядзенне спаборніцтваў, так і на стварэнне інфраструктуры — будаўніцтва дарог, гатэляў і арэнаў. Гэтыя грошы будуць акупляцца доўга і далёка не факт, што акупяцца хоць калі-небудзь.

Але ёсць і тыя, хто на чэмпіянаце свету здолеў зарабіць.

### Манаполія дзяржаўнага турбізнэсу

Па стане на 12 мая бязвізавым уездам у Беларусь скарысталіся больш за 17 тысяч турыстаў. Нагадаем, пры наяўнасці квітка на адну з гульняў чэмпіянату іншыя дазвольныя дакументы афармляць не трэба. У лічбу не ўключаныя турысты з Расіі (а іх адваротная большасць), якім віза не патрэбная.

Рассяленнем гэтай грамады занялося Кіраўніцтва справ прэзідэнта. Статус «афіцыйнага тураператара» і правы на продаж гатэльных нумароў па ўзнятых цэнах атрымала дзяржаўная турыстычная кампанія «Цэнтр-курорт».

А вось астатнія тураператары ад такой манаполіі пацярпелі. «Папярэднія гады колькасць «майскіх» турыстаў у нас штогод прырастала на 30%. А сёлета лічба зменшылася», — канстатуе дырэктар кампаніі «Віяполь» Галіна Патаева.

Паколькі тураператары не змаглі перакупіць месцы ў гатэлях у «Цэнтр-курорта», то і запрашаць турыстаў яны фактычна не могуць. Адзінае выйсце — туры без начоўкі ў Мінску. Напрыклад, «Віяполь» забаўляе трохдзённым вялікім падарожжам са спыненнем у Нясвіжы і Брэсце за $200. Альбо аглядной экскурсіяй па сталіцы за 170 тысяч рублёў.

### «Ніхто, апроч расійцаў, плаціць не будзе»

Для таксіста Аляксандра, як і сотняў ягоных калег, кожная гульня хакейнай зборнай Расіі — проста свята. «Тысячы заўзятараў пасля матча выходзяць наўпрост да праезнай часткі праспекта Пераможцаў і пачынаюць спыняць аўто. Прычым кошт праезду для іх значэння не мае, — расказвае ён. — У першы дзень я папрасіў 150 тысяч да «Арбіты» (гэта каля 5 км), але пасля зразумеў, што ўзяў мала. Цяпер мая звычайная стаўка — 250—300 тысяч, незалежна ад адлегласці. За вечар можна паспець зрабіць дзве, такія «ходкі». Некаторыя таксісты просяць па 500 тысяч — і ўсё адно з'язджаюць з кліентамі. Ніхто, апроч расейцаў, такія грошы плаціць не будзе. Нават пасля гульняў зборнай Беларусі пасажыраў знайсці складана».

«Цяпер супраць такога развозу расейцаў выступіла ДАІ, — абураецца таксіст. — Па вечарах каля «Мінск-Арэны» фактычна праводзіцца спецаперацыя, як падчас «Стоп-бензінаў». З мігалкамі перакрываюць праспект Пераможцаў, каб таксісты не маглі пад'ехаць да заўзятараў. Пасля апошняй гульні Расіі ўдалося перахапіць толькі адну групу фанатаў, а потым паўгадзіны стаяць у заторы. Але гэта толькі злуе фанатаў, якія не хочуць вяртацца ў гатэль на аўтобусе».

### Стэйк за 285 тысяч

Перамогу сваіх зборных заўзятары святкуюць не дома, а ў цэнтры Мінска. Ашчадныя турысты збіраюцца ў «зонах гасціннасці», раскіданых па ўсім горадзе. Там можна і пад'есці, і паслухаць жывыя канцэрты.

Больш багатых гасцей чакаюць рэстараны. Мінскія ўлады рэкамендавалі ім працаваць да 6 раніцы, каб задаволіць попыт магчымых начных едакоў.



ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ, TUT.BY

У інтэрнэце з'явіўся здымак чэка, які «наелі» ў адным з мінскіх рэстаранаў фінскія хакеісты. Ад вялікай кампаніі рэстаран атрымаў амаль 22 мільёны рублёў! І гэта без уліку чаявых.

18 бутэлек італьянскай мінералкі па 75 тысяч рублёў, столькі ж супоў з белых грыбоў па 85 тысяч, а таксама 13 стэйкаў шато брыян па 285 тысяч... Адна такая кампанія можа перабіць сярэднюю выручку рэстарана за некалькі дзён.

### «Не хацеў, каб да мяне дакраналіся»

Перад чэмпіянатам дзяржаўныя стаматалагічныя паліклінікі атрымалі абноўлены план выканання платных паслуг, вядома ж, з ухілам на замежнікаў. Не сакрэт, што медыцына ў Беларусі нашмат таннейшая, чым у суседніх краінах. Таму многія турысты спалучаюць прыемнае з карысным. Напрыклад, лячэнне ўскладненага карыесу каштуе для замежніка каля $150 (дарэчы, для беларусаў удвая танней).

Чэргаў з хворых замежнікаў няма, адзначаюць у медыцынскіх цэнтрах. Але колькасць кліентаў вырасла ў параўнанні з папярэднімі месяцамі.

Што праўда, не ўсе замежнікі ў захапленні ад беларускай медыцыны. Чэшскі хакеіст Раман Полак атрымаў траўму падчас матча са Славакіяй. На рэнтген яго павезлі ў мінскую паліклініку. «Не ведаў, чаго чакаць ад бальніцы ў Мінску. Не хацеў, каб да мяне там дакраналіся, мне трэба было толькі зрабіць рэнтген. Мінск — чысты горад, але аб паліклініцы так сказаць не магу», — расказаў пасля хакеіст.

**Ягор Марціновіч**

## Што думаюць турысты пра Беларусь?

Госці чэмпіянату свету па хакеі пачынаюць друкаваць у Інтэрнэце першыя водгукі пра сваё падарожжа ў Беларусь. На што яны звярнулі ўвагу, што ім спадабалася, а што абурыла?

Беларускія вёскі выглядалі прыгожа. Адчуваецца, што яны камусьці патрэбныя. Бетонныя скрыні прыпынкаў свежапафарбаваныя. Пасвіцца скаціна, задаволеная жыццём.
<…>
На запраўцы дзяўчына ветліва смяялася з нашых ідыёцкіх жартаў. Узялі трэцюю бутэльку каньяку. Па горадзе ехалі, урубіўшы на ўсю гучнасць песню «Расія!». З вакна Віталь размахваў расійскім шалікам. Песню мы (з заду і жыхары Мінска) праслухалі чатыры разы. На святлафоры падышоў дзіўны чалавек і запытаў, ці не хочам мы атрымаць нянавісці. Ён гатовы яе даць.
<…>
Я часта чуў, што архітэктура Мінска — літаральна «Back to USSR». Магчыма, і так, але велізарныя латкі капіталізму нельга не заўважыць.
<…>
Зайшлі ў Чырвоны касцёл. Нанавбуд без асаблівых прэтэнзій. Вітражы, карціны — прыемныя, але не больш. Я сеў на лаву і паспрабаваў замкнуць на сябе сусвет. Лічу, гэта мае права рабіць чалавек любой веры ў любым храме.
<…>
Аказваецца, у Беларусі дазволеныя гульнявыя ўстановы. Мілае пасланне, якое дае таталітарная ўлада сваім гарэзлівым дзецям.

**Санкт-Пецярбург, Расія**




Архітэктура будынкаў у горадзе ўражвае. Спадабалася яшчэ тое, што ўсе будынкі дагледжаныя і адрамантаваныя, не тое, што ў нас. Вельмі вялікія праспекты для пешаходаў, а для аўтамабілістаў проста казка: шырокая праезная частка па некалькі палос у розныя бакі з добрым пакрыццём.

**Санкт-Пецярбург, Расія**

Беларускі пейзаж адрозніваецца ад расейскага дагледжанасцю. Круціцца слова «вылізана», ды яно грубаватае. Але! Ніводнай паперкі, ніводнага занятбанага дома, ніводнага зарослага пустазеллем поля. У 8 вечара на раллі яшчэ працаваў трактар.




А ў Мінску ў палову на дзявятую малады мужчына ў аранжавай камізэльцы падмятаў вуліцу венікам!

**Растоў-на-Доне, Расія**

Кіраўніка шведскай праваабарончай арганізацыі Остгрупэн Марціна Углу не пусцілі ў Беларусь, хоць ён меў квіток на хакей. Ноч яму давялося правесці ў аэрапорце «Мінск-2»:

Начаваў я на канапе ў пакоі, які знаходзіцца ў транзітнай зоне. Гэта пакой для асобаў, якіх не пусцілі на тэрыторыю Беларусі. Са мной былі яшчэ тры іранцы. Гэта не турэмная камера, а асобная зала, якую ахоўваюць. За мной назіралі тры ахоўнікі — глядзелі, каб я не ўцёк.
<…>
Супрацоўнік «Белавіі», які прыносіў бутэрброды, здзівіўся, што я валодаю беларускай мовай.
<…>
Раніцай мяне пасадзілі на самалёт, пажадалі прыемнага палёту. Праўда, не сказалі «Да пабачэння». Я запытаўся: ці значыць гэта, што год гасціннасці ў Беларусі ўжо скончыўся? Але памежнік зрабіў выгляд, што не разумее пытання.

**Стакгольм, Швецыя**

# Новая палітычная сітуацыя

Піша Ігар Маханёк.

Пуцін напаў на Украіну адразу пасля змены ўлады.

Вы ўяўляеце, што будзе з Беларуссю, калі ўлада зменіцца?

Раней мы заўсёды змагаліся за перамогу дэмакратычных прazaходніх кандыдатаў і за бел-чырвона-белы сцяг, ведаючы, што краіне неабходна вызваляцца ад прыгнёту лукашызму. Але тут з'яўляецца знешні фактар.

Калі ў Беларусі Лукашэнка перастане быць прэзідэнтам, то Пуцін увядзе свае войскі практычна адразу. І што будзе з краінай? У адрозненне ад Украіны, у Беларусі няма легітымнага парламента, які будзе змагацца за незалежнасць. У Беларусі няма сваёй арміі — старшыя афіцэры ВС РБ прысягалі яшчэ СССР і асабіста Лукашэнку, але на Беларусь ім пляваць. У Беларусі расейскія ваенныя базы. Памежнага кантролю няма, і ўвайсці могуць лёгка як сотні тысяч правакатараў, так і танкі.

У Беларусі няма такіх моцных свабодалюбных рэгіёнаў, як Львоўшчына ва Украіне. Пераязджаць з акупаваных тэрыторый не будзе куды. З пашпартамі Беларусі мы ўсе будзем як герой Тома Хэнкса ў тэрмінале.

І на фоне ўсяго гэтага — з Лукашэнкам у нас пакуль незалежнасць. І нават калі Пуцін нападзе на краіну да змены ўлады, тут папулярнасць Лукашэнкі будзе важным дадатковым фактарам. І калі нейкі малойчык з Растова павесіць бела-сіне-чырвоны сцяг на выканкам, яго арыштуюць тыя самыя мянты, якія арыштоўваюць за бел-чырвона-белы.

Чырвона-зялёны сцяг — не мой сцяг, але лепш ён над будынкамі Мінска, а не сцяг суседняй дзяржавы. І калі пачнецца вайна, то наша армія абараняць краіну будзе менавіта пад чырвона-зялёнымі сцягамі. І пры такім — не дай Бог — развіцці падзей нам прыйдзецца пад гэтым сцягам аб'ядноўвацца, якім бы саўковым і жахлівым ён ні быў.

Бел-чырвона-белая незалежнасць, на жаль, ізноў стане магчымая толькі тады, калі пуцінскі рэжым спыніць існаванне.

Мы ўпусцілі свой шанец у 90-х, калі Расія не нападала на суседзяў. Тады палякі, чэхі, латышы, літоўцы і эстонцы паспелі. Цяпер доўга чакаць новага шанцу.



Ігар Маханёк (нар. 1984) — выбітны беларускі праграміст. Працуе ў карпарацыі Google у Нью-Ёрку.



## Марціновіч, Дынько, Ваганаў, Панкавец — сярод пераможцаў «Вольнага слова»

«Наша Ніва» сабрала найбольшы ўраджай прызоў.

3 мая ў Сусветны дзень свабоды прэсы сябры журы конкурсу «Вольнае слова» абвесцілі пераможцаў. Сёлета на конкурс прыйшла найбольшая за часы існавання колькасць публікацый — каля 150.

Аўтары «Нашай Нівы» сёлета перамаглі ў трох намінацыях з пяці. Ягор Марціновіч — «Найлепшы інфармацыйны матэрыял» за артыкул «Царская сяло Дразды: хто ў ім жыве?», Андрэй Дынько — «Найлепшая аналітычная публікацыя» за каментар «Алексіевіч ці Бяляцкі?», Сяргей Ваганаў — «Найлепшая публікацыя мастацка-публіцыстычнага жанру» за калонку «Па кім маўчыць звон».

Таксама прызы ў намінацыі «Найлепшая публікацыя мастацка-публіцыстычнага жанру» ўзялі Ягор Марціновіч (2 месца) і Зміцер Панкавец (3-яе). Агулам «Наша Ніва» атрымала пяць дыпломаў — больш за ўсе іншыя выданні.

## У Мінску пачаліся Беларускія спеўныя сходы

6 траўня адбыўся трэці спеўны сход. 50 чалавек у чарговы раз сабраліся ў адной з музычных студый, каб паспяваць беларускія народныя песні.

Саліст гурту «Вурай» Сяргей Доўгушаў спачатку правёў з прысутнымі майстар-клас па дыханні. Потым пачаліся распевачкі: яны былі простыя — кожны даў рады. Усё суправаджалася рытмічнай хадзьбой па студыі, груканнем нагамі — перад спевамі неабходна цалкам распаволіцца. Зрэшты, настройка на спевы нагадвае практыкаванні ёгаў па расслабленні цела і настройцы духу.

На двух папярэдніх Спеўных сходах удзельнікі ўжо вывучылі пяць песень, і таму спевы пачаліся з іх. Калі «спевакі» добра адчулі свой голас, узялі агульнае гучанне — прыйшоў час вывучэння новых музычных твораў. Імі сталі хлапечая «Дунаю-дунаю» і дзявочая «Калыханка».

Хлопцы спявалі дзяўчатам сваю песню, а потым — наадварот.

Напрыканцы сходу перад удзельнікамі выступіў спецыяльны госць — гурт «Кудзьмень». Прагучала некалькі песень у беларускай народнай манеры выканання, адбыўся дуэт скрыпак.

Суарганізатар сходаў Аляксей Чубат запрашае на Сходы ўсіх ахвотных як з музычнай адукацыяй, так і без яе. Уваход — вольны.

Падпісацца на старонкі Сходаў вы можаце ў Facebook або Укантакце. Там жа ёсць відэа і тэксты песень.

https://www.facebook.com/speunyshod

https://vk.com/speunyshod







**Расцвіла сон-трава, сонніца. У яе ніжні плёстак нагадвае ніжнюю скіўцу дэльфіна. А ў кропельцы у цэнтры кветкі можна ясна ўбачыць чалавечае вока. І, наогул, яна вельмі добра выглядае.**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

## Водгукі

### Пятая калона: хто рыхтуецца да сустрэчы «зялёных чалавечкаў» у Беларусі (№16)

Расія застаецца амаль манапалістам на нашым інфармацыйным рынку. Нацыянальная мова выгнаная з сістэмы адукацыі. Мытная прастора, энергазабеспячэнне кантралююцца Расеяй. То паўстае пытанне: а што ўлада стварала ўвесь гэты час? Уласную дзяржаву ці Северо-Западный край?

З.

# Украінцы бароняць і незалежнасць Беларусі

Вітаю супрацоўнікаў «Нашай Нівы»! Апошнім часам з'яўляюся вашым пастаянным чытачом. Мяне ўзрушыла акупацыя расейцамі Крыма.

Украінскі народ паўстаў супраць карумпаванага рэжыму крамлёўскай марыянеткі Януковіча і нават зрынуў яго, што здавалася амаль немагчымым, і гэта аказалася для Крамля смяротнай небяспекай. Хіба можна без Украіны адбудаваць пашыраную савецка-расійскую імперыю, аб якой мараць у Крамлі?

Не накарміўшы ўласны народ удосталь, крамлёўскія камунафашысты ў чарговы раз спрабуюць «ашчасліваць» увесь навакольны свет сваёй чалавеканенавісніцкай ідэалогіяй, над якой, на жаль, так і не адбыўся свой Нюрнбергскі працэс.

На маю думку, Беларусь не павінна абслугоўваць вялікадзяржаўныя інтарэсы палітычнай крамлёўскай вярхушкі, якая сёння знаходзіцца пры ўладзе. Гэтая вярхушка дбае не пра свой народ, але дзейнічае на карысць ФСБ-КДБ ды ВПК, якія зацікаўленыя ў супрацьстаянні з Захадам. Інакш гэтыя «супрацоўнікі» не будуць запатрабаваныя ў мірны час, калі народы і дзяржавы будуць сябраваць адзін з адным.

Чаму ж маўчыць Расейская праваслаўная царква?! Можа, патрыярхат РПЦ служыць уладам, а не праўдзе? Тады кіраўнікі РПЦ недалёка адышлі ад фарысеяў, якія аддалі на крыжовае распяцце Госпада Ісуса Хрыста. Можа быць і сапраўды многія бацюшкі носяць пад расамі пагоны кадэбэшнікаў, як спяваў Талькоў?

Калі «старэйшы брат» адужае Украіну (а ў гэта не верыцца, бо сапраўдны народ нельга перамагчы), дык і незалежная Беларусь ужо існаваць не будзе. Я заклікаю свядомых беларусаў не купляць, па магчымасці, расейскія тавары і прадукты, а падтрымліваць айчынных і ўкраінскіх вытворцаў.

Украінскі народ абараняе не толькі свае землі ад агрэсараў з Усходу, але ж яшчэ й нашу, беларускую, незалежнасць.

**Алесь Рымарук**

## Вачыма паэта

### Галасы з тагасвету

Вы не турбуйце нас<br>святочнымі салютамі —<br>яны як трасеры<br>у наступах правальных.<br>Бо не для гэтага<br>сыходзілі ў пакутах мы,<br>каб нашым подзвігам цяпер<br>спекулявалі вы.

Мы тут ляжым —<br>і радавыя? і палкоўнікі,<br>у нас тут мір даўно,<br>і крыўды ўсе забытыя.

Зноў феерверкі,<br>і затворы зноўку клацаюць,<br>шугае ўвысь<br>імперскіх захапленняў полымя.<br>О, як ім хочацца<br>за дзірачку на лацкане<br>пачапь вайнушку пераможную,<br>вясёлую!

**Георгі Станкевіч, Бешанковіцкі раён**

# «Барада — гэта нядобрасумленны спосаб канкурэнцыі»

Чаму беларускае журы «Еўрабачання» паставіла Канчыту Вурст **на перадапошняе месца**?

Сёлета першае месца «Еўрабачання» — у Томаса Нойвірта, які вядомы пад псеўданімам Канчыта Вурст. Аўстрыйская «жанчына з барадой» стала сенсацыяй конкурсу і атрымала рэкордныя 290 балаў.

Ацэнка кожнай краіны складалася з дзвюх лічбаў: ацэнкі гледачоў і прафесійнага журы. Звычайна іх ацэнкі больш-менш супадаюць, аднак не ў выпадку з Канчытай Вурст. Беларускія гледачы далі «аўстрыйскай Сярдзючцы» 4-е месца, журы — толькі 23-е.




**Канчыта Вурст можа прыехаць у Мінск**

З прадстаўнікамі аўстрыйкі вядуцца перамовы. Выступ артысткі плануецца на лета, магчыма яна прыедзе на «Славянскі базар»

## «Людзі падтрымліваюць ЛГБТ, таму што баяцца быць нямоднымі»

«Я паўсюль хвалю і песню, і выкананне Канчыты, — кажа сябра журы, прадзюсар Яўген Алейнік. — У маім плэеры песня грае ўжо месяца чатыры. Я талерантна стаўлюся да любых праяваў нестандартнай любові, і мне ўсё роўна, хто мой суразмоўца, партнёр па працы ці спявак на сцэне. Але я ў першую чаргу — бацька, які гадуе хлопчыка, і я зраблю ўсё, каб не дапусціць прапаганды ЛГБТ на экране». Яўген прызнаецца, што паставіў Канчыту на апошняе, 25-е, месца.

«Я думаю, што выканаўцы гэтай песні не даканца шчырыя, калі кажуць, што яны проста паказваюць сябе як ёсць. І таму барада — гэта нядобрасумленны спосаб канкурэнцыі. Калі б не было барады і шуміхі, то, магчыма, перамога не была б такой лёгкай.

Людзі выходзяць з моцнай, прыгожай песняй, але давешваюць сродак немузычнай барацьбы. Калі б у шведкі, напрыклад, быў ДЦП, адсутнічалі абедзве нагі ці была іншая нестандартная знешнасць — людзі б не толькі слухалі, але і перажывалі за спявачку. Я, як сябра журы, пабачыў нядобрасумленную канкурэнцыю і ціск на пачуцці, не звязаныя з успрыняццем музыкі».



**Канчыта Вурст** (Канчыта Кілбаса)

Сапраўднае імя спевака — Томас Нойвірт. Ён нарадзіўся ў 1988 у Гмундэне ў Аўстрыі. У 2001 скончыў школу моды ў Грацы, у 2006 перамог нацыянальны конкурс для выканаўцаў-пачаткоўцаў. Том — адкрыты гей. Ён жанаты з мужчынам, танцорам бурлеску. У падлеткавым веку Нойвірт сутыкаўся з дыскрымінацыяй з боку аднагодкаў. Вобраз барадатай жанчыны — гэта яшчэ і яго заклік да талерантнасці.

Чаму ж так галасавалі за Канчыту? На думку Яўгена, людзі падтрымліваюць ЛГБТ, таму што баяцца быць нямоднымі, падаца гамафобамі. Але наўрад ці гэтым кіраваліся падчас галасавання гледачы з Беларусі.

## «Хто на экране: дзядзя ці цёця?»

Салістка гурту DaVinci Вольга Рыжыкава, якая таксама была ў прафесійным журы, расказала, як адбываецца яго галасаванне. «Сябры журы выстаўляюць адзнакі за дзень да трансляцыі фіналу. Яны глядзяць такое ж шоу, і артысты ідуць у той самай паслядоўнасці, але на дзень раней, — кажа Вольга. — Таму на ацэнку ўплывае вялікая колькасць фактараў: ад настрою да надвор'я за акном...

Адносна Канчыты — не хацела б я апынуцца з ёй у адной грымёрцы! Я разумею, што гэты выканаўца мае неверагодны голас, песня ў яго выдатная. Усё здорава. Калі глядзець з заплюшчанымі вачыма. Асабіста я не ведаю, як адказаць на пытанне пляменніцы, хто на экране: дзядзя ці цёця». Вольга паставіла Канчыту на 20-е месца.

## «Галасаванне — проста частка шоу»

Традыцыйна высокія балы ад Беларусі атрымалі Украіна і Расія. «Я думаў, што Расію не пусцяць у фінал, і я ўпэўнюся ў палітызаванасці гэтага конкурсу. Але Расія прайшла, — дзівіцца Алейнік. — І адначасова я ўсцешаны, што Украіна не паразытавала на негатыўным піяры. Уяўляеце, колькі балаў яна б атрымала, калі б адправіла на конкурс баладу пра тое, як ва Украіне зараз усё дрэнна і якая благая Расія? Але людзі разумеюць, што так рабіць — непрыгожа, і таму на выступ украінскай спявачкі глядзець было адно задавальненне».

Алейнік мяркуе, што працэс галасавання ў «Еўрабачанні» — гэта проста частка шоу, бо ў музыцы складана знайсці крытэр, па якім можна судзіць песню. Таму судзейства — проста элемент: вылятаюць прыгожыя лічбы, выканаўцы хвалююцца... Не варта ставіцца сур'ёзна ні да адзнак, ні да сэнсу песень, падсумоўвае Алейнік.

«Не ўражвае нумар, калі артыст стаіць на месцы, а ўсё астатняе робяць інжынеры і тэхнічныя службы, — тлумачыць свой выбар Аляксандр Мяжэнны. — Таму я не ацаніў высока выступы Аўстрыі і Швецыі. Увогуле, вобраз Канчыты мне не блізкі. Артыст павінен альбо выходзіць працаваць, альбо пратэставаць. А калі ты на «Еўрабачанні» хочаш займацца прасоўваннем ідэй, то лепш пашукаць іншыя пляцоўкі. Я не гамафоб, але ўсяму свае час і месца».

Але ж і на постсавецкай прасторы існуюць спевакі, якія працуюць у вобразе трансвестыта, — тая ж Верка Сярдзючка. А Барыс Маісееў? Ці ён менш вульгарны, чым Канчыта?

«Верка Сярдзючка — гэта проста сцёб, — адбіваецца Мяжэнны. — А Канчыта Вурст — гэта пратэст, праверка на талерантнасць».

Ён лічыць, што Еўропа галасавала не за сам выступ, а супраць сітуацыі ціску на ЛГБТ-супольнасці, і гэта прынесла дадатковыя балы.

«Увогуле, аб'ектыўнасць судзейства «Еўрабачання» выклікае сумневы», — дадае Мяжэнны.

З апошнім нельга не пагадзіцца. У прыватнасці, у Беларусі.

**Настасся Храловіч**



МІКАЛАЙ АЎРАМЕНКА

**Расійскія поп-зоркі Барыс Маісееў, Сяргей Звераў і Аляксандр Пяскоў.**



Беларускі спявак **Тэа (Юрый Вашчук)** выйшаў сёлета ў фінал «Еўрабачання». Свой выхад ён пракаментаваў у твітары па-беларуску: «Жыве і будзе жыць!» Тэа заняў у фінале 16-е месца.



**Верка Сярдзючка**

Ну хто яе не ведае? Жаночы вобраз, створаны ўкраінскім артыстам Андрэем Данілкам, ніколі не шакаваў постсавецкага гледача. Хоць Данілка робіць дакладна тое ж, што і Нойвірт.

**Журы:**

**Васіль Раінчык**

Музыка і кампазітар, а таксама прафесар Універсітэта культуры. Былы лідар гурту «Верасы», цяпер — дырэктар Тэатра маладзёжнай эстрады. Народны артыст Беларусі.

**Яўген Алейнік**

Кампазітар і прадзюсар. Піша песні для гурту Aura.

**Аляксандр Мяжэнны**

Заснавальнік школы сучаснага танца, харэограф.

**Вольга Рыжыкава**

Салістка поп-гурту DaVinci, таксама працуе як радыё дыджэй і тэлевядучая.

**Інна Адамовіч**

Начальнік аддзела ў Міністэрстве культуры. Адказная за арганізацыю ўсіх відаў міжнародных і мясцовых конкурсаў і фестываляў. Музыка.

**ТОП-5 выканаўцаў ад беларускага журы**

1. Сёстры Талмачовы (Расія)
2. «Firelight» (Мальта)
3. Дзіляра Кязімава (Азербайджан)
4. Марыя Ярамчук (Украіна)
5. Арам МР3 (Арменія)

**ТОП-5 паводле тэлегледачоў**

1. Сёстры Талмачовы (Расія)
2. Арам МР3 (Арменія)
3. Марыя Ярамчук (Украіна)
4. Канчыта Вурст (Аўстрыя)
5. Паўла Селінг і Аві (Румынія)

**ТОП-5 па выніках еўрапейскага галасавання**

1. Канчыта Вюрст (Аўстрыя)
2. «The Common Linnets» (Нідэрланды)
3. Сана Нільсэн (Швецыя)
4. Арам МР3 (Арменія)
5. Андраш Калаі-Сондэрс (Венгрыя)

Думаю, пакуль у беларускае журы будуць трапляць людзі, якія ў прынцыпе не здольныя разглядзець будучых пераможцаў, Беларусі на гэтым конкурсе лавіць няма чаго.

**Алесь Пілецкі, журналіст**

**Анекдот у тэму**

Беларусы не разумеюць, як еўрапейцы сёлета выбралі адну барадатую жанчыну на «Еўрабачанні». А еўрапейцы не разумеюць, як беларусы ўвесь час выбіраюць аднаго вусатага мужчыну прэзідэнтам.

# Майданы 1919-га

У пачатку мая спаўняецца 95 гадоў Гарадзішчанскаму паўстанню.

Ва Украіне ваенныя дзеянні — ужо трагічная рэальнасць. Гісторыя адносін з нашай агульнай вялікі суседкай Расіяй поўная драматызму, непаразумення, палітычных і каштоўнасных несупадзенняў. Жаданне жыць асобным ад імперыі нацыянальным домам выклікалі і выклікаюць спачатку здзіўленне яе кіраўнікоў за адкінутыя дабрадзействы, пасля крыўду і лютую агрэсію.

Абвясціўшы аб праве нацый на самавызначэнне, савецкая ўлада з самага пачатку свайго існавання прыклала ўсе сілы для адраджэння імперыі ў новым, бальшавіцкім фармаце. Нацыянальныя ўскраіны агнём і мячом вярталіся пад расійскі дах. Пры гэтым бальшавікі кроілі карту па сваім капрызе. Так, ад Беларусі былі адрэзаныя землі Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў. Іх вяртанне пасля разглядалася як акт асаблівай ласкі. «Картачныя гульні» бальшавікоў сёння, як бачым, на ўзбраенні расійскіх палітыкаў, яны ліха выкарыстоўваюцца для анексій чужых тэрыторый.

Вясна 1919 г. — вайна на беларускіх землях у разгары. Беларускія мужыкі шалёна адбіваліся ад новых прэтэндэнтаў на ўладу з Масквы. Той гарачы год даў велізарную колькасць сваіх, беларускага разліву «Майданаў». Усёпаглынальная нянавісць да чужой бандыцкай улады — галоўная заахвочвальная сіла, якая падымала народ тады, падымае і цяпер.

Антысавецкі сялянскі фронт праходзіў праз кожную вёску і мястэчка. Паўстанства на ўсходзе Беларусі — яркі фрагмент гэтага ўзброенага процістаяння. Крыніцы даюць багатую палітру мяцежнай беларускай вёскі, раскрываюць імёны забытых герояў.

### Галаўны боль гомельскай улады

У тую вясну Магілёў страціў званне губернскага горада. Гомельскія ўлады і камерсанты пераканалі крамлёўскіх кіраўнікоў перанесці губернскую адміністрацыю ў Гомель. Аднак разам з ганаровым статусам Гомель атрымаў непрымірымае да новай улады насельніцтва. Найбольшым галаўным болем быў Горацкі павет, дзе барацьба не аціхала з вясны 1918.

Людзі, якія прыйшлі да ўлады пасля Лютаўскай рэвалюцыі, не мелі намераў аддаваць яе саветам і рэўкамам, якія з'яўляліся ніадкуль і складаліся з выпадковых людзей. Чырвоныя наязджалі ў вёску за рэсурсамі: ладзілі акцыі па канфіскацыі хлеба, вайсковыя і працоўныя мабілізацыі.

Беларуская вёска не проста супраціўлялася рабунку, але спрабавала скінуць уладу бальшавікоў і ўсталяваць сваю. У беларускіх паветах Гомельшчыны і на блізкіх украінскіх землях шугала сапраўдная вайна. Ва Украіне ў маі—ліпені 1919-га 100 тысяч чалавек выступілі супраць саветаў, 10 тысяч паўстанцаў дала Чарнігаўшчына. Беларускім даследчыкам яшчэ трэба будзе ацаніць маштаб сялянскай вайны на сваіх землях.


Адзін з лідараў Гарадзішчанскага паўстання, атаман Даніла Іваноў.

Чарада паўстанняў — Кармянскае, Гарадзішчанскае, Быхаўскае, Стракапытаўскі мяцеж — узрушылі Гомельшчыну з надыходам вясны.

### Супраць мабілізацыі

Паўстанцкія настроі распальвала гвалтоўная мабілізацыя. Сігналам да выступлення становіліся вясковыя сходы, на якіх камісары пагрозамі змушалі моладзь ісці ў чырвонае войска.

Гарадзішчанскае паўстанне ўспыхнула адначасова ў дзясятках вёсак. У кожнай знайшоўся завадатар, які быў звязаны з кіраўнікамі паўстання, былымі афіцэрамі царскай арміі Карпам Пруднікавым, Сяргеем Вязавым, братамі Піменавымі. Чырвонаармейскія атрады, прысланыя мабілізаваць і лавіць дэзерціраў, сустракалі ўзброеныя людзі.

З нагоды прыбыцця такой групы 8 мая ў цэнтры Гарадзішча сабраўся сход. Павел Трутчанкоў, член мясцовага выканкама, прапанаваў чырвоным здаволіцца добраахвотнай мабілізацыяй. Яго горача падтрымалі. Камісары паехалі ні з чым. А 9 мая прайшоў яшчэ адзін мітынг, на якім гучалі заклікі ісці ў «зялёнае» войска. Гарадзішчанцы схапілі 7 чырвонаармейцаў з атрада камісіі па барацьбе з дэзерцірствам і вайсковага інструктара. Іх расстралялі. Схапілі пад гарачую руку і крамніка Міркіна, але яго адпусцілі як чалавека патрэбнага для вёскі. Паўстанцы не былі антысемітамі: калі падчас мітынгу казначэй валаснога выканкама Цярэшка прапанаваў выступаць з лозунгам «Бі жыдоў — ратуй Расею», яго проста прагналі. Правакатар знік, прыхапіўшы пад шумок касу выканкама. Ён пасля вернецца ў вёску з бальшавіцкім карным атрадам...

Схапілі паўстанцы і следчага з Горак, які прыехаў высвятляць абставіны расстрэлу чырвонаармейцаў. (Цікава, што пра прыезд следчага папярэдзіў ягоны ж памочнік — спецыяльна прыехаў у Гарадзішча на матацыкле.) Следчага раззброілі і павялі ў лес на расправу і, відаць, імітавалі расстрэл. Следчы сышоў жывы.

Так было па ўсім навакольлі: вясковыя сходы ператвараліся ў мітынгі па мабілізацыі ў зялёнае войска. Падзеі адбываліся ў дні велікодных святаў. Агітатары проста з набажэнстваў запрашалі людзей на плошчу. Адначасова збіралі зброю для вясковых атрадаў. На дарогах выстаўляліся пасты.

### Блокпасты ў Пугляях

Захавалі архівы апісанне такога мітынгу ў вёсцы Пуглы. На Вялікдзень у цэнтры сабраліся практычна ўсе жыхары. Мясцовы актывіст Васіль Ліпкін горача заклікаў: у Чырвоную армію не хадзіць! 19-гадовы Андрыян Магер, які прыехаў на сход роварам з Оршы, раздаваў газеты «Партызан» і ўлёткі. Было вырашана не пускаць чырвоных у вёску.

На ўездзе з боку Оршы арганізавалі засаду. У яе трапіла група з чатырох чырвонаармейцаў пад кіраўніцтвам прадстаўніка камісіі па барацьбе з дэзерцірствам. Адзін чырвонаармеец адразу быў забіты, двое трапілі ў палон, яшчэ двое ўцяклі.

Паўстанцы рыхталіся да ваенных дзеянняў. Разбіўшыся на тры групы, яны сыходзілі ў лес. Каля 50 чалавек з рэчмяшкамі і вінтоўкамі накіравалася пад Бабінічы, яшчэ 10 чалавек — у бок вёскі Чорнае, каля паўсотні размясціліся блізу родных Пугляёў. У паўстанцаў было тры кулямёты, адзін з якіх перадалі ў суседнія Бабінічы. Там сабралася 80 чалавек, гатовых супраціўляцца. Вясковую моладзь, якую новая ўлада спрабавала загнаць у войска, агітавалі пасланцы эсэраў з Оршы. Яны спадзяваліся, што да паўстанцаў далучыцца батарэя 8-га артдывізіёна, які размяшчаўся ў аршанскім кляштары.

Пасля здушэння паўстання ЧК ўстанавіла, што пугляёўцаў падбілі да ўзброенага выступу «дэзерціры, што вярнуліся з Масквы».

### «Наступіў зручны момант далучыцца»

Арганізатары народнага войска таксама дзейнічалі не толькі ўгаворамі, але і пагрозамі. «Браты Драчовы агітавалі сярод сялян, што арганізуецца вялікая зялёная армія, якая возьме Оршу, і пагражалі нязгодным ісці ў яе расстрэлам», — пісаў следчы ЧК.

Арганізатары спрабавалі надаць зялёнаму войску падабенства рэгулярных частак. Вясковыя атрады зваліся ротамі, камандаванне даручалася былым афіцэрам. Такую баявую адзінку ў сваім родным Ліхачове ўзначаліў герой Першай сусветнай Даніла Іваноў. Яго сябры і аднадумцы ўсталі на чале сялянскіх дружын у суседніх вёсках. Фёдар Трутчанкоў, Мікалай і Пракоп Піменавы — у Гарадзішчы, Ціт Цялятнікаў і Філіп Раманаў — у Ордаці, Ілля Кавалёў — у Шэдах, Іван Драчоў — у Любіжы, Васіль Ліпкін і Андрыян Магер — у Пугляях.

«...У наша сяло ад паўстанцаў прыехаў пасланец, які сабраў моладзь і заклікаў далучыцца да паўстання. Наступіў, як я тады меркаваў, зручны момант, і я вырашыў далучыцца...», — расказваў на допыце Іваноў, арыштаваны НКВД у 1939.

Ён вярнуўся ў роднае сяло ў пачатку 1918. Пасля фронту доўга лячыўся ад атручання газамі ў Кіеўскім шпіталі, пасля быў мабілізаваны ў Чырвоную армію і праз пару месяцаў дэзерціраваў. Практычна ўсе мужчыны з Ліхачова яго веку ўдзельнічалі ў паўстанні. У шэрагі паўстанцаў ішлі цэлымі сем'ямі.

> **Нянавісць да чужой бандыцкай улады — галоўная заахвочвальная сіла, якая падымала народ тады, падымае і цяпер**

Паўстанцы разагналі савецкія ўстановы, нападалі на карныя атрады.

Паўстанцы не былі маргіналамі. У кіраўніцтве былі шматлікія прадстаўнікі савецкай улады з мясцовых: ваенрук Пруднікаў, інструктар усеначуча Піменаў, работнік пошты Вязаў. Старшыня Благоўскага сельсавета Гаеў «пад выглядам выканання работы па службе, браў актыўны ўдзел у шпіянажы» на карысць паўстанцаў. А член валаснога выканкама Трутчанкоў «вёў агітацыю не здавацца савецкай уладзе, а арганізавана ісці супраць Рабоча — сялянскага ўрада».

Паўстанцы жорстка расправіліся з атрадамі чырвоных, пасланымі лавіць дэзерціраў. У дзясятках вёсак і мястэчак былі разгромленыя саветы. Паўстанцы падзяліліся на групы лікам ад 15 да 50 чалавек, размясціліся ў навакольных вёскі лясах. Даследчыкі называюць агульная колькасць паўстанцаў да 5000 чалавек.

### Тысяча штыкоў

18 мая ў Горацкім павеце было ўведзенае надзвычайнае становішча. Мясцовая ўлада прасіла ў Гомеля вайсковага падмацавання. У той жа тэлеграме гаварылася, што пакуль «паўстанцы ўстрымліваюцца ад наступальных дзеянняў, перакрылі бліжэйшыя тракт», але, турбаваліся мясцовыя камуністы, ёсць вялікая верагоднасць захопу павятовага цэнтра.

У Горкі прыбыў пяхотны атрад у 350 чалавек з пяццю кулямётамі і 25 коннікаў, са Смаленска прыйшоў атрад з 600 чалавек, з Магілёва — рота. Намеснік губернскага ваенкама Галаганаў дакладаў у Гомель, што супраць паўстанцаў сканцэнтравана больш за 1000 штыкоў пры кулямётах, гарматах і кавалерыі.

22 мая а 14-й чырвоныя пачалі баявыя дзеянні. У вёскі Любіж атрад паўстанцаў быў разгромлены. У Гарадзішчы чэкісты захапілі штаб і харчовы склад. Увечары таго ж дня з Гомеля выехаў губернскі ваенны камісар Кампан, «узяўшы з сабой атрад кітайцаў». (Пасля ўтварэння Гомельскай губерні ЧК займела там свой інтэрнацыянальны батальён. Акрамя рускіх — беларусы і габрэі ўваходзілі таксама ў «славянскую» групу — і кітайцы, прыцягваліся найміты з нямецкіх і аўстрыйскіх земляў.)

### Застрэлены ў жыце

Баі былі жорсткія. Мясцовым чырвоным героем стаў памочнік павятовага ваенкама Парункевіч, які на чале атрада ў 25 чалавек завязаў бой з «бандай», у некалькі разоў большай. У духу таго часу газеты напісалі: «Ваявалі да апошняга патрона і загінулі смерцю храбрых». Пра зялёных герояў сведчаць матэрыялы следства. Геройчна загінуў Васіль Ліпкін, які, абыходзячы паўстанцкія пасты, заўважыў атрад непрыяцеля. Ён спрабаваў папярэдзіць таварышаў пра небяспеку і, як у крутым баевіку, быў застрэлены ў жыце.

«На здушэнне былі кінутыя рэгулярныя часткі Чырвонай арміі, якія мелі артылерыю. Тым не менш, было вырашана супраціўляцца», — успамінаў на допыце ў НКВД Даніла Іваноў. Паўстанцы доўга не складалі зброю. Павятовы камітэт паведамляў, што «разагнаныя шайкі зноў збіраюцца ў лясах». Паўстанне доўжылася месяц, актыўныя баявыя дзеянні завяршыліся да 9 чэрвеня.

### Пераход да партызанскай вайны

Але да нармалізацыі становішча ў Аршанскім і Горацкім паветах было далёка. У сярэдзіне чэрвеня са станцыі Орша ў напрамку Горак пагрузіліся дадатковыя сілы пяхоты і кавалерыйскі атрад. Паўстанцы рассыпаліся па павеце асобнымі баявымі групамі...

Іваноў працягне сваю вайну з саветамі поплеч з Пруднікавым і Піменавым. Увосень 1920-га яны з'явяцца ў родных месцах пад сцягам генерала Булак-Балаховіча, пасля доўга будуць партызаніць супраць саветаў.

След Іванова згубіцца ў засценках НКВД. Тры браты Піменавы будуць у розны час затрыманыя на савецкай тэрыторыі і скончаць жыццёвы шлях у высылцы, далёка ад родных мясцін. Гарадзішчанскае паўстанне паклала пачатак баявой біяграфіі многіх яго ўдзельнікаў. Аднойчы уступіўшы на шлях барацьбы, яны не пакінулі яго да канца сваіх дзён.

# Неандэрталец ідзе

Эсэ. Піша **Стась Карпаў**.

*«Я кое-что понял, встав с левой ногі».*

Менавіта ў Варшаве, стоячы у найпаскуднейшым настроі пад душам у найстрамнейшым хостале Прагі-Паўднёвай, я зразумеў, што калі нешта не так, то цяпер я ведаю што.

Дабіраліся мы да Варшавы як заўсёды. Выезд, запланаваны на дзень, адбываецца вечарам, дарога праходзіць ноччу, пасля хросны ход на мяжы і прыезд на месца ў стане жорсткага каматозу а 8-й раніцы. Арганізм патрабуе сну, але сон не прыходзіць, бо кава і энергетыкі выкручваюць арганізм навыварат.

Спыніцца вырашылі ў хостале, бо, па-першае, ніколі ў хостале не спыняліся, па-другое, як высветлілася, гэта вельмі танна, а па-трэцяе «а чо нам двум хлопцам перад самімі сабой расшарківацца». Мужчынская кампанія не вымагае сэрвісаў і камфортаў. Рэчы кінуў і пайшоў бухаць. Але.

Справа ў тым, што той хостал, у які мы заехалі, аказаўся хосталам для дальнабояў, будаўнікоў-шабашнікаў, вечна п'яных бамжаватых валацугаў. Кайф яшчэ той, але не толькі кайф, але і профіт. Калі ты глядзіш на чужое быдла, ты маеш магчымасць прыглядзецца. Свае гопнічкі замыліліся. Зліліся адным фонам і перасталі прадстаўляць сабой аб'ект вывучэння. Іншая справа — чужыя. Але пра гэта — пазней.

Жыхары суседняга пакоя па першай просьбе выдалі нам пароль ад сакрэтнага гаспадарскага вайфаю, папрасіўшы пару піва ўзамен. Ну, нармальна, чо. Называецца ён у Польшчы, дарэчы, не вайфай, а віфі. Віфі, і ўсё тут.

Вырашыўшы, што найлепшы спосаб заснуць — прыняць унутр сябе «Сапліцы», пайшлі ў пошуках крамы, дзе купілі выратавальны алкаголь сабе і прэміяльны суседзям. Суседзі спакойна ўзялі піва, моўчкі адчыніўшы і зачыніўшы дзверы. Мы зайшлі да сябе, выпілі і радасна адрубіліся.

Прачнуліся гадзіны праз тры. Гвалт. Лямант за тонкай сцяной. Суседзі даказвалі, што словам «курва» можна выказаць любую думку. Польскую мову я разумею кепска, але што нешта там у іх не клеілася, я зразумеў добра. Яна шукала пянёндзы, а ён казаў, што курва-курва. Яшчэ пара іншых мужчынскіх галасоў флегматычна паўтаралі, што курва, курва, і ўсё такое. Пасля яны пастукалі да нас. Мы, прыходзячы спакваля ў прытомнасць, адчынілі і пачалі камунікацыю.

Яна некалі была напэўна нішто сабе такой. Некалі. Так. У яе вельмі белыя зубы, але не хапае аднаго ці двух пярэдніх. Акуратненька выбіты. Нос у яе ад частага ламання пляскаты і па шырыні займае ўсё вольнае месца паміж правым і левым вокам. Як у баксёра. Вочы бліскучыя. Хітрыя. Задорныя вочы 35-гадовай алкагалічкі.

У яе мужа, наадварот, я налічыў два зубы і пару штыфтоў. Ён — будаўнік. У адпрасаванай і вымытай спартыўнай вопратцы. Абое вельмі прыязныя.

Іхні сужыхар мае тонкія інтэлігенцкія рукі. Дастаткова апухлыя. Чырвоныя.

Сядзелі і рабілі выгляд, што размаўляем. Яны нам нешта казалі і нешта сказалі. Было ясна, што «курва-курва», а яшчэ ці не хочам мы піва, якое яны нам прынеслі ў адказ — пачаставаць? Мы піва не захацелі, а захацелі спаць. Нашы суседзі імгненна ўсё зразумелі і пайшлі да сябе, хаця я думаў, што зараз будзе як звычайна нешта тыпу: «Да чо, да давай вып'ем. — А давай пасядзім. — Дык а ёсць яшчэ што?»

Болей не заснулі. Суседзі за сценкай зноў сварыліся і спрабавалі адзін аднога ўкладваць спаць ці адправіць у магазін. Слова «курва» паўтаралася імі пасля кожнага слова, і гэта не жарт.

Тонкія-тонкія сцены.

Раніцай нехта з бравых мужчын запаўзаў на белазубую прыгажуню, і яна праз хвілінную ітэрацыю выдавала нейкі гук, каб падбадзёрыць. Падбадзёрвала. Пасля мужчыны сыходзілі купляць піва, а яна бегала і завіхалася па кухні і тоненькім дзявочым галасам пела смешныя польскія дзіцячыя песенькі. Скварчала патэльня. Яна ўяўлялася 12-гадовай дзяўчынкай са светлымі косамі. Такой свавольніцай, якая, пакуль не прыйшлі бацькі, вырашыла здзівіць іх блінамі на снядана к. Пасля вярталіся кавалеры, бухалі, гарлалі, крычалі, што курва-курва-курва. Яна крычала заўжды мацней за іншых. Голас быў ужо не тоненькі, а сіплы такі зламаны голас алкагаліцы.

— Ты бэндзеш мне кохаць, бо твой ... стаіць! — крычыць ана аднаму з кавалераў і радасна смяецца.

А яшчэ яны ламалі дзверы суседзям.

Нам не ламалі, нас любілі, бо, зайшоўшы да нас вечарам, яны ўбачылі, што мы сінхронна з імі квасім са сваімі сябрамі смачную польскую зуброўку. І яны вельмі ўзрадваліся.

На наступны дзень, калі я ішоў у душ праз фае, дзе стаяў стол, за якім сядзелі суседзі, ужо канчаткова наваленыя і чырвоныя, яна узвіскнула, працягнула ў мой бок перст і праз рогат прасіпела: «А, ты алкагоо-о-олік! Алкаголік! А?! Відзела! Вноце піл вудка!»

Кавалеры радасна смяяліся і запрашалі прысесці да іх. Я разгублена заматаў галавой: не разумем.

Кожны раз, калі яны нас бачылі, яны радасна называлі нас алкаголікамі і запрашалі на піва. І я не мог ніяк зразумець, што ж выбіваецца з стандартнай карціны. Што незвычайнага ў гэтым. Што?

У іх няма адчування уласнай заганнасці, якую мы прызвычаіліся назіраць у тых, хто намацвае дно ў сваёй біяграфіі. Гэтыя людзі з суседняга пакою шчаслівыя. Вось што выходзіла за межы шаблона. Яны з гонарам бухаюць, з гонарам ажыццяўляюць свае ранішнія каітусы, з гонарам апускаюцца настолькі глыбока, наколькі гэта дазволіць іх малады арганізм.

І вось у гэты момант мне шмат што стала ясна вакол мяне. І я апынуўся ў Беларусі. На менскіх вуліцах, у гарадзенскіх падворках. У любым месцы нашай краіны. А пасля — у Расіі. Там, дзе гэта ўсё ярчэй і больш шурпата. Усё склалася. Мы, каторыя бачым, што свет поўны несправядлівасці, мы, каторыя хутка зноў пойдзем на плошчу па раздачу люлей, мы, каторыя перажываем за брацкі (ніколі раней не ўжываў гэтага слова) украінскі народ, каторыя плачам, гледзячы, як лёгка прашываюцца кулямі драўляныя шчыты — мы ненавідзем сябе за тое, што не можам растлумачыць ІМ, чаму мітынг на майдане ў Кіеве — праява народнай велічы, а каларадскія мітынгі ў ДоМбаСе — бясконцая вальпургіева ноч. Мы не разумеем, чаму яны не бачаць, што кепскае — кепска, несправядлівае — несправядліва. Што быдла і мудакі не павінны называцца героямі, а героі павінны.

Я зразумеў усё.

Мы жывем ва ўпэўненасці, што у нас адбываецца барацьба ідэй. Што мы нешта ім можам растлумачыць, пераканаць іх, і ў іх расплюшчацца вочы. І яны скажуць нам, хто паводзілі сябе херова і больш так ніколі не будуць. Але яны будуць і не прыйдуць і не скажуць.

Мы бачым сябе носьбітамі нейкай ідэі, нейкай прагматычнай высновы, нейкага гуманістычнага крытэрыя, але гэта не так. Мы не носьбіты ідэі, мы носьбіты мінорнага настрою і дэпрэсіі. Ты спрабуеш растлумачыць чалавеку, якому фізічна — вельмі хораша, — што яму фізічна вельмі кепска. І таму ён успрымае нас як псіхічна хворых надакучлівых клікушаў. Мы крычым: «Гіпаксія. Кіслароднае галаданне. Няма чым дыхаць. У цябе павінна балець галава, братка, мусіць з'явіцца адышка, ты мусіш ванітаваць, як я! Усё кепска і будзе яшчэ горай».

А ён адказвае, што ў яго цудоўны тонус, што ён дыхае на поўныя грудзі. Усё добра і будзе яшчэ лепей.

І ён не спрачаецца, бо няма прадмета спрэчкі.

І ты ўяўляеш сабе да якога «лепей» ён ідзе і вядзе цябе за сабою. І ты думаеш, пра тое, што ён мае сваю ідэю, а ты сваю. І ты павінен яму даказаць! Даказаць, што яму кепска, што ён задыхаецца як і ты. А ён не хоча цябе слухаць, бо твае словы не маюць сэнсу. Ен гаспадар свайго жыцця. Свайго і твайго.

Калі ж здарыца што павера стане шмат, і ты, нарэшце, перастанеш задыхацца і скажаш, што жыццё наладзілася, ён прыпаўзе да цябе, трымаючыся за галаву і будзе енчыць, што яна ў яго кружыцца, што ў яго кіслароднае атручанне, ён ванітуе і амаль аслеп і скажа, што гэта ты, с..ка, ва ўсім вінаваты, што ты хочаш ягонай смерці і за ўсё заплаціш. Вашы віды несумяшчальныя. Яны — гэта яны. Яны змагаюцца за камфорт для свайго віду. Мы іншыя. Справа ў тым, што насуперак дарвінаўскай тэорыі прызнана, што краман'ёнцы — гэта не вынік эвалюцыі неандэртальцаў. Гэта іншая паралельная галіна развіцця чалавека. Яны жылі ў адзін час і спрабавалі адстаяць кожны сваё права на існаванне. Іншая справа, што лічыцца, нібыта неандэртальцы зніклі, а краман'ёнцы — вось яны: мы. Ну, так. Мы — краман'ёнцы. Але і неандэртальцы тут. Неандэртальцы — гэта яны. Мы жылі побач з імі болей за сто тысяч гадоў. Мы навучылі іх агню, але не навучылі іх размаўляць і думаць як мы. Мы ім казалі: «чаму вы не размаўляеце?» А яны не адказвалі менавіта таму, што яны не размаўляюць. Мова неандэртальцаў была і ёсць беднай. У ёй ёсць толькі каманды, загады і «алерты». Яны мыслілі загадамі сто тысяч гадоў таму і іх мысленне не змянілася істотна цяпер. Яны патрабуюць загаду. Хай яны зразумелі, што есці смажанае — карысней і што зручней хадзіць ў прыбіральню, а не пад сябе, але змываць за сабой яны навучыліся не ўсе.

Знешні выгляд неандэртальца апісаны дастаткова падрабязна і, хаця дзясяткі тысяч гадоў міжвідавых стасункаў моцна разбавілі іх геном, неандэртал бачны, калі ён выходзіць на святло і чутны, як толькі адкрывае рот. Неандэрталец ідзе.



**Стась Карпаў**
нарадзіўся ў Мінску ў 1983. Скончыў філфак БДУ. Вэбдызайнер, публіцыст, паэт.

## ФУТБОЛ

### Самы важны матч вясны

**15 мая** пройдуць сустрэчы 8-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе. Яўна вылучаецца афіша барысаўскай сустрэчы. У госці да БАТЭ прыязджае мінскае «Дынама». Сустракаюцца лідары першынства. Запоўненасць трыбунаў новага стадыёна-прыгажуна гарантаваная.

Таксама ў гэты дзень сустракаюцца:
«Шахцёр» (Салігорск) — «Мінск»;
«Нёман» (Гродна) — «Гомель»;
«Дняпро» (Магілёў) — «Бялшына» (Бабруйск);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Дынама» (Брэст);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Слуцк».

## КАНЦЭРТЫ

### «Фіолет»

**17 мая ў Loft Cafe (Броўкі, 22)** канцэрт гурту «Фіялет», дзе будзе прадстаўлены новы альбом «Вігвам». Пачатак а 19. Білеты — 100 тысяч.

### Akute ў Наваполацку

**18 мая ў Гарадскім доме культуры** Наваполацка пройдзе канцэрт гурта Akute. Пачатак а 18.

### J:Морс

**20 мая а 19-й у канцэртнай зале «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** акустычны канцэрт грае гурт J:Морс.

### Нейра Дзюбель

**21 мая ў Jab Club (Няміга, 12)** святкуе дзень нараджэння Аляксандр Кулінковіч (гурт Neuro Dubel). Пачатак а 19.

### N.R.M.

**23 мая а 19-й у клубе «Піраты» (Партызанскі, 6А)** грае вялікі сольны канцэрт гурт N.R.M.

## ІМПРЭЗЫ

### Ноч музеяў — 2014

Ноч музеяў — міжнародная акцыя, якая мае на мэце паказаць магчымасці і рэсурс сучаснага музея,прыцягнуць новых наведнікаў. Упершыню адбылася ў 1997 го-дзе ў Берліне. Сёлета яна пройдзе 17 мая па ўсім свеце.

**Мастацкі музей (Леніна, 20)** сёлетнюю ноч музеяў прысвячае тэме «Лабірынты часу», гэта спроба адысці ад лінейнага ўспрымання часу і прасторы. Тут можна пачуць гучанне жывапісу і пабачыць рух у карціне. Кошт — 50 тыс. Права бясплатна наведаць акцыю атрымае той, хто створыць свой гадзіннік і зробіць яго часткай свайго ўбора. Пачнецца акцыя а 21.

**Музей гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** пакажа класічную музычную камедыю «Паўлінка» рэжысёра Аляксандра Зархі, знятую ажно ў 1952 годзе. Усе беларускія танцы, што выконваюцца ў гэтым фільме, будуць узноўленыя на майстар-класе ад самага каларытнага персанажа камедыі — пана Быкоўскага. Удзельнікі фольк-гурту Guda навучаць усіх ахвотных танцаваць так, як гэта рабілі героі «Паўлінкі». Пачатак а 18-й.

**Музей гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная,10)** падрыхтаваў праграму «Чай у горадзе». Тут разгорнецца выстава імбрычкаў — новы погляд на звыклы прадмет, пройдзе гульня-гаданне, а ў дворыку будзе зладжана чаяванне (можна будзе пасмакаваць усе гатункі чаю) і выступ джаз-бэнду Bluesville Station. Мінскія танцоры ліндзі-хопу, танца, што называюць візуалізацыяй джазу, падхопяць рытм музыкі. Пачатак а 19. Кошт — 20 тыс.

**Гістарычны музей (Маркса, 12)** прэзентуе полікультурны праект «Музей свядомасці». Пры падтрымцы прафесійных мастакоў, музыкаў, рэжысёраў, акцёраў тут створаць непаўторную атмасферу свята, у якім кожны знойдзе свой інструмент для самавыражэння. Вас чакаюць тэатральныя выступы, Музей электроннай музыкі прэзентуе сваю праграму, а для самых маленькіх падрыхтуюць шоу мыльных бурбалак. Уваходны квіток — 95 тыс. Пачатак а 19.



## ВЫСТАВЫ

### «Under 35»

**Да 25 мая ў Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** праходзіць выстава «Under 35», то бок тых творцаў, якім няма яшчэ 35 гадоў. На выставе глядач знаёміцца з новымі імёнамі маладых, таленавітых мастакоў, іх арыгінальнымі творамі. Тут сплятаецца многае: і актуальны кантэкст сацыяльных і гістарычных працэсаў, апасродкаванасць, або простасць творчых выказванняў, фарматворчасць і спробы пазбавіцца ад навязаных стэрэатыпаў.



### «Полацка–Віцебская даўніна»

**Да 30 мая ў Прэзідэнцкай бібліятэцы (Кірава, 43, пад'езд 4)** працуе выстава »Полацка–Віцебская даўніна» прысвечана дзейнасці Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, якая працавала ў 1909–1919 гг. Камісія спрыяла ахове помнікаў гісторыі і культуры, папулярызацыі гісторыі роднага краю, збору і вывучэнню прадметаў старажытнасці, старадаўніх рукапісаў і дакументаў, правядзенню археалагічных раскопак, арганізацыі экскурсій па гістарычных мясцінах, выданню навуковых і папулярных прац па гісторыі, геаграфіі, археалогіі і этнаграфіі Віцебшчыны.

## ТЭАТРЫ

### 15 мая

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Оперы і балета** — Шчаўкунок
**Юнага гледача** — Мешчанін у шляхецтве

### 16 мая

**Оперы і балета** — Турандот
**Юнага гледача** — Шытая лялька Рэгедзі Энн

### 17 мая

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка

### 18 мая

Купалаўскі — Паўлінка
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 19 мая

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Оперы і балета** — Яўгеній Анегін

### 20 мая

**Беларускай драматургіі** — Кантакт
**Купалаўскі** — Лістапад. Андэрсен

### 21 мая

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Чароўная лямпа Аладзіна
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

## КІНО

### Мечаная д'яблам

Эксперымент: Зло
**Жанр:** фільм жахаў
**Рэжысёр:** Джон Пог
У ролях: Джарэд Харыс, Сэм Клафлін, Эрын Рычардс, Оры Флек-Бірн, Алівія Кук, Лоры Кэлверт
ЗША, Вялікабрытанія, 98 хв.

Прафесар Оксфардскага ўніверсітэта Джозэф Коўпленд упэўнены, што так званыя апантаныя д'яблам людзі — ахвяры ўнушэнняў і траўмаў. Гэта ён хоча даказаць на прыкладзе ўдалага аздараўлення. Прафесар стварае групу з найлепшых студэнтаў і пацыенткі Джэйн, тэлекінэтыка, якую вызваліў з клінікі, каб вылечыць. Кампанія селіцца разам ў доме і праводзіць серыю тэстаў, якія фіксуюцца на відэакамеру. Але эксперымент выходзіць з-пад кантролю…

Фільм жахаў, які выкарыстоўвае ўсе магчымыя штампы жанру, у тым ліку модны цяпер псеўдадакументальны здымкі, і напоўніцу эксплуатуе тэму ўсеагульнага зла. Дзеянне адбываецца ў антуражы 1970-х. Сюжэт складаецца з сцэн эксперыментаў, на працягу якіх прыборамі фіксуюцца паранармальныя з'явы. Атмасфера жаху нагнятаецца паступова, сюжэт набывае дэтэктыўныя рысы, але фінал занадта прадказальны. Стужка не ўтрымлівае ў сабе нічога глыбокага і мае на мэце адно: паказытаць нервы ўсім ахвотным.

**Настасся Уласава**

THE QUIET ONES

# Сто гадоў беларускага авангарду

Пра грандыёзную выставу несавецкага мастацтва піша Сяргей Харэўскі.

Сярод мноства выстаў, якія адкрыліся ў Мінску падчас чэмпіянату свету па хакеі, вылучаецца грандыёзны праект «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта». Яго часткаю стала выстава «Сто гадоў беларускага авангарда».

Праект выключны: упершыню асобна і досыць поўна прадстаўленая гісторыя неакадэмічнага беларускага мастацтва.

Арганізатары адмералі беларускаму авангарду сто гадоў. Хоць, калі лічыць ад «Чорнага квадрата» Казіміра Малевіча, будзе 99. «Чорны квадрат» Малевіч пісаў у Маскве, выставіў у Пецярбурзе, але родам ён з Беларусі. Дзякуючы рупнасці даследчыкаў Арсеня Ліса і Адама Мальдзіса, мы ведаем, што Малевіч нарадзіўся на Капыльшчыне, а яго бацька Севярын быў чытачом «Нашае Нівы» і ў 1907 апублікаваў у «Вестях императорской Российской Академии наук» збор запісаных ім беларускіх народных песень.

Але і без «Чорнага квадрата» на пачатку ХХ стагоддзя Беларусь была ўнікальнай лабараторыяй мастацтва. Адны Смілавічы далі свету двух выбітных творцаў — Хаіма Суціна ды Сэма Царфіна. А імёны Яўгена Жака, Рамана Семашкевіча, Уладзіслава Страмінскага пакуль толькі ўводзяцца ў наш культурны ўжытак. На жаль, іх твораў у экспазіцыі няма. Як, напрыклад, і твораў Язэпа Драздовіча.

Найстарэйшымі выстаўленымі працамі сталі творы Роберта Геніна, родам з-пад Клімавічаў, «Колка дроў» і «Ля вадаёма», створаная ў арыгінальнай, але цалкам рэалістычнай лірычнай манеры ў 1912. А самым новым, з прадстаўленых тут твораў, стала скульптура «Tvar» (2012) Уладзіміра Лапо, ведамага ў мінскім бамондзе па мянушцы Пілот.

Класічны авангард 1920-х прадстаўлены літаграфіяй Марка Шагала, графікай беларуска-фінска-шведскага мастака Аляксандра Ахола-Вало, ды, немаведама чаму, творамі цалкам французскага мастака Фернана Лежэ. Тутсама выстаўленыя і юначыя супрэматычныя творы ягонай жонкі Надзеі Хадасевіч-Лежэ, дзяўчыны з беларускай вёскі, якой пашчасціла скарыць Парыж ды старога Лежэ.

З вялікімі храналагічнымі і персаніфікаванымі прабеламі экспазіцыю працягваюць творы мастакоў 1960-70-х: Ізраіль Басаў, Георгій Скрыпнічэнка, Рычард Май, Яфім Раяк. Творцаў лучыла памкненне выкараскацца з нератаў сацрэалізму і канфармізму. Але такіх імёнаў магло на выставе быць нашмат болей...



Найбольш прадстаўнічай стала частка, прысвечаная мастацтву 1980—90-х. Тут знайшлося нават месца для першага ў нашай гісторыі мастацкага перформанса Людмілы Русавай ды Ігара Кашкурэвіча: «Спаленне Казіміра» і «Уваскрашэнне Казіміра» (можна пабачыць відэа). 1988 год. Лістапад. Віцебск. Ігар Кашкурэвіч разам з Людмілай Русавай святкуюць прынародна 110-я народзіны Малевіча. Святкуюць па-дзівацку, па-эпатажнаму, па-крэатыўнаму. Трагічная неадпаведнасць паміж творчым гарэннем, у якім зараджаецца задума, інтуіцыя, вобраз, і халодам скончанае формы заўжды востра перажывалася мастакамі. Тандэм Русавай і Кашкурэвіча распаўся. Ён цяпер жыве ў Берліне. А Людміла сышла з гэтага свету.

Другую палову 1980-х справядліва лічаць «залатым векам» мастацтва ў нашай краіне. Выстава дэманструе гэта праз творы нефармальных суполак таго часу: «Няміга-17», прадстаўленая працамі Анатоля Кузняцова, Сяргея Кірушчанкі, Леаніда Хобатава; «Квадрат» на чале з Аляксандрам Малеем; Асацыяцыя творчай інтэлігенцыі «Форма», «Галіна», «Плюраліс», «БЛО», «4-63», «Комікон». Але вір гістарычных падзеяў занурыў грамадства ў стан несупынных акцыяў і палітычных перформансаў, што сталі куды больш радыкальнымі, чым самыя смелыя парыванні мастакоў. Многія значныя мастакі тае пары выстаўляюцца рэдка і сціпла. Напрыклад, Аляксей Жданаў ці Віталь Калгін-«Бісмарк».

Выстава — рэдкі шанец пабачыць творы з прыватных калекцый. Напрыклад, карціны Вольгі Сазыкінай ці Генадзя Хацкевіча. Гэтак сталася, што гэтая выстава стала апошняй для Хацкевіча. Мастак памёр праз некалькі дзён пасля адкрыцця выставы.

«Сто гадоў беларускага авангарда» — першая грунтоўная спроба выбудаваць храналогію і прадставіць авангардныя аб'яднанні ХХ стагоддзя, пераасэнсаваць і наноў інтэрпрэтаваць нашае неафіцыйнае мастацтва — як самую цікавую і змястоўную частку беларускай мастацкай культуры.

Вобразныя, жанравыя і фармальныя шуканні, што вялі творцаў праз ХХ стагоддзе, увасобіліся ў тысячах твораў. Арганізатары выставы паспрабавалі прадэманстраваць сувязі найноўшага мастацтва Беларусі з авангардам пачатку ХХ стагоддзя. І гэты першы крок надзвычай важны. Адяго мы будзе адмерваць новую эпоху. Эпоху, у якім сапраўднае, незалежнае мастацтва зойме годнае месца.

**Выстава «Сто гадоў беларускага авангарда»**

працуе ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47) ад 11.00 да 19.00. Выходныя — нядзеля, панядзелак.

**Выстава Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта,**

на якой можна пабачыць мастацтва апошняга дзесяцігоддзя, працуе на пр.Пераможцаў, 14. Штодня ад 11.00 да 21.00 (да 26 мая — да 22.00).

In memoriam

# Анатоль Кудравец

Пісьменніка Анатоля Кудраўца за вочы называлі па імені ягонага ж персанажа — «Вашшчэткі». Гэты герой рамана «Сачыненне на вольную тэму» Ігнат Сцяпанавіч Вашшчэткі — такі сабе сціплы «непрыкметны» беларус. Але яго крэда — «Ніхто цябе не прымушае, сам выбіраеш» — сведчыць пра вялікую ўнутраную свабоду.

Ад канца 70-х да канца 90-х, у пераломнае для беларускай гісторыі дзвацціцігоддзе, Кудравец быў рэдактарам «Нёмана» — смелага і надзвычай папулярнага часопіса.

«Часопіс пашыраўся на ўвесь СССР, — успамінае крытык і тагачасная супрацоўніца «Нёмана» Ала Сямёнава, — і ў ім мы друкавалі артыкул Вінцука Вячоркі пра нацыянальны сцяг; друкавалі беларусаў замежжа — Кіпеля, Запрудніка, Акулу; вярталі спадчыну Ластоўскага, Лёсіка, Цвікевіча; давалі слова нефармальнай моладзі — «Тутэйшым», Пазняку...»

Пра смеласць Кудраўца сведчыць тое, што ён у другой палове 80-х, калі ідэалагічны кантроль яшчэ не слабеў у Беларусі, узяў на працу Сяргея Дубаўца — відавочнага апазіцыянера. Якраз за часам працы ў «Нёмане» Дубавец і распачаў адраджаць «Нашу Ніву».

У канцы ж 90-х, калі ўздымалася лукашэнкаўская рэакцыя і завяршаўся разгром Саюза пісьменнікаў і літаратурных часопісаў, Кудравец дазволіў пад эгідай свайго фонду «Нёман» выдаваць незалежны часопіс «Дзеяслоў».



Не быўшы ў дэмакратычных партыях і грамадскіх рухах, Кудравец рабіў тое, што падказвала яму сумленне. І гэтая дзейнасць была на карысць беларускай культуры.

Па словах унучкі, якая даглядала Анатоля Кудраўца, дзед у апошнія часы пераглядаў свае ўспаміны. Ці паспеў падрыхтаваць дзённік да друку — невядома. Пісьменніка не стала 8 мая, яму было 78 гадоў.

**СМ**

### Спачуванні праз nn.by

Цяжка на сэрцы і цяжка штонебудзь сказаць. Хіба што паўтарыць за Юльюшам Славацкім: смутна мне, Божа.

**Анатоль Сідарэвіч**

Бывай, Толя... Глыбокія і шчырыя спачуванні сваякам, усім, хто ведаў і любіў...

**Сяргей Ваганаў**

Вечная памяць!

**Лявон Баршчэўскі**

Часам ненавіджу свае 50 за тое, што прыходзіцца быць сведкай сыходу вялікіх людзей Беларусі, але Бог ведае лепш, калі каму адлятаць у Нябесную Беларусь.Спачуванні блізкім і родным сп.Анатоля і вечная памяць праз ягоныя творы!

**Вольга Цярэшчанка**

Бывай, дарагі Анатоль Кудравец. Буду маліцца за цябе. Тваё апавяданне «На балоце скрыпелі драчы» хочацца перайначыць — «На балоце цяпер плачуць драчы». Вечны супакой табе. Памятаю, сумую…

**Іван Крупко**



СЯРГЕЙ МАКАРЭВІЧ

In memoriam

# Давід Сімановіч

9 мая ў Віцебску памёр пасля цяжкай хваробы Давід Сімановіч — паэт, празаік, перакладчык. Яму быў 81 год.

Нават не верыцца, што ён ужо не прачытае вершы ля помніка Марку Шагалу, не пакладзе кветкі да помніка Уладзіміру Караткевічу, не схіліць галавы ля помніка Аляксандру Пушкіну.

Ён ужо ніколі не пройдзе віцебскімі вуліцамі. Не падыдзе да мяне і не спытаецца пра справы, а напрыканцы не дадасць: «Беражы сябе». І не пойдзе далей на сустрэчу са сваімі чытачамі.

Якім ён запомніцца мне? Чалавекам, які шмат зрабіў для свайго горада, але так і не стаў Ганаровым Грамадзянінам Віцебска. У наш змрочны час у пашане іншыя... Але гэта часова.

Ён мог з'ехаць у любую краіну. Але не захацеў здрадзіць свайму любімаму гораду. Гораду, у якім быў шчаслівы.

Памёр Паэт... Паэт жывы! У сваіх вершах, звернутых да нас

**Барыс Хамайда, Народныя навіны Віцебска**

### Спачуванні праз nn.by.

Гэты чалавек заслугоўвае большага, чым лічбы, лічбы, лічбы... Сябраваў з Караткевічам, Быкавым, Барадуліным. Змагаўся за вяртанне Шагала Віцебску.

**Міхаіл Рубін**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Мінску працягваецца чэмпіянат свету па хакеі. Прадказальна, што найбольш балельшчыкаў прыехала з Расіі. Некаторыя з іх чакаюць у фінале гульні паміж іх зборнай і Беларуссю. Праўда, не ўсе расейцы вядуць сябе добразычліва. Быў выпадак, калі расейскі заўзятар патаптаўся па сцягу Швейцарыі, а іншая група спрабавала вывесіць расейскія сцягі над грузінскім пасольствам.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**У Верхнім горадзе Мінска прайшоў II Фестываль вулічных тэатраў. У ім бралі ўдзел калектывы з Беларусі, Польшчы, Кубы (на фота), Славеніі, Расіі, Украіны.**



**Святочныя мерапрыемствы ў гонар Дня Перамогі не абмінулі нават мінскі заапарк. Побач з іпадромам «чырвонаармейцы» спявалі ваенныя песні, а ламы і козы назіралі за палявой кухняй.**



**Беларуская шахматыстка-прыгажуня Ганна Шарэвіч з Брэста будзе цяпер выступаць за зборную ЗША.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Знойдзена дзяўчынка, выхаваная ніндзя, якая... блін! Куды яна дзелася?

* * *

Жонка, усе святкуюць Дзень Перамогі, а ты ўсё сваё: разбяры елку, да разбяры елку...

* * *

Самы лепшы спосаб прачнуцца знакамітым — гэта заснуць знакамітым.

* * *

Аляксандр Саладуха пачаў працу над новым альбомам.

Стары ён ужо размаляваў.

* * *

Касавокая настаўніца падчас кантрольнай трымае ў напрузе ўвесь клас.

* * *

Правілы жыцця рок-н-рольшчыка:
1) Сэкс;
2) Алкаголь;
3) Прыбраць ранiцай, пакуль мама з начной змены не прыйшла.

* * *

Вы нічога не ведаеце пра страх, калі ў вас сярод ночы побач з ложкам не падала гітара.

* * *

Каб улетку добра выглядаць на пляжы, Люся яшчэ з зімы пачала адкормліваць сваю лепшую сяброўку Аксану.

* * *

Каб кожны год не здаваць грошы на лінолеум, бацькоўскі камітэт 5-га «А» прыняў рашэнне заасфальтаваць клас.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Сяляне на нашай Віцебшчыне** жывуць надта бедна, з прычыны малазямелля, на пабольшанне каторай у руках сялян-беларусаў дужа мала надзеі, праз асаблівую палітыку ўрада і розных чарнасоценных партый, каторыя стараюцца ўсімі сіламі надзяліць зямлёй або наезных старавераў, або сялян з цэнтральных губерній. Няма што тлумачыць, што гэтым робіцца сялянам вялікая крыўда.

**«НН». №19. 1914.**

**Інтэлектуалы попу** — Аляксандра і Канстанцін — сталі першымі ў гісторыі прадстаўнікамі Беларусі на «Еўрабачанні». Выйгралі ці прайгралі, якая розніца — першы блін можна і сабаку. Галоўнае — мы там ёсць. Мы сталі цікавыя самі сабе. Беларуская маскультура нараджаецца. Гадамі беларускія інтэлектуалы заклікалі: маскультура паўстань! Вось яна паўстае, і нават за яе не сорамна.

**«НН». №18. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 13.05.2014.
Замова №1981.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

